# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 26 (1520) ГОД XXX БЕЛАСТОК 30 ЧЭРВЕНЯ 1985 г. ЦАНА 8 зл.




Гродзенскі драматычны тэатр.

## Пяць дзён у гасціне

### ДЗЕНЬ ПЕРШЫ

Паездка была амаль нечаканай. На запрашэнне Гродзенскага абласнога камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, рэдакцыі „Гродзенскай праўды" і Гродзенскага цэнтра радыё і тэлебачання і па рэкамендацыі Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку едзе нас пяць чалавек: з „Газеты вспулчэснай" яе галоўны рэдактар М. Хая і журналіст А. Радзюкевіч-Карповіч, са Студыі Польскага радыё і тэлебачання ў Беластоку дырэктар С. Пульнар, сакратар партыйнай арганізацыі і вядомы публіцыст С. Бжазоўскі, а з „Нівы" еду я.

Усяго некалькі дзён на зборы, а бегатні мноства: трэба вырабіць пашпарт, памяняць крыху грошай на кішэнныя выдаткі, набыць білеты і ўсё гэта ў міжчасе выконвання бягучай рэдакцыйнай працы, а яе, калі спяшаешся, заўсёды прыбывае.

Але ўсё ўжо неяк афармілася ды ўтраслося, і мы нарэшце ў цягніку Беласток-Гродна. За вокнамі бушуе поўня вясны — гэта ж 27-ы дзень мая! І настрой у нашай грамадкі весналы, радасны — едзем да блізкіх сяброў-суседзяў і ведаем, што яны прымуць нас сардэчна і гасцінна. І не памыляемся: праз дзве гадзіны на вакзале ў Гродне ўжо сустракае нас група гродзенскіх журналістаў на чале з галоўным рэдактарам „Гродзенскай праўды" А. В. Богушам. Прывітанні, абдымкі, Аня Радзюкевіч атрымоўвае пышны букет. Праўда, большасць з нас бачылася з нашымі гродзенскімі сябрамі ўсяго два тыдні таму назад, у Беластоку, на святкаваннях 40-годдзя Перамогі, але частыя сустрэчы толькі ўмацоўваюць сяброўства, набліжаюць людзей, радняць.

Першыя крокі на Гродзеншчыне і першыя ўражанні. Ужо з акон вагона відаць, што Гродна — гэта сучасны вялікі гарадскі цэнтр, які няспынна разрас-

(Працяг на стар. 2)

## З Трэпарцёрскіх запісак
## ВЯСЕЛЛЕ У КУРАШАВЕ

Вёска Курашава знаходзіцца ў гміне Чыжы. Усё, што адметнае ў жыцці беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы, можна знайсці ў гэтай вёсцы. Вернасць сваім бацькоўскім традыцыям, захаваная ў мове і ў песнях. Працавітасць, якая праяўляецца ў заможнасці тутэйшых сялян, а таксама і ў шматлікіх грамадскіх пачынах. Сяброўства і гасціннасць, якія адчувае кожны госць, прыбыўшы ў Курашава з адкрытым сэрцам і прыстойнымі намерамі.

Таму і я люблю наведваць гэтую вёску. Памятаю, як дружна ў Курашаве будавалі вясковую ГСаўскую краму, як пазней прыступілі да пабудовы ў грамадскім пачыне прасторнай святліцы, дзе зараз памяшчаецца вясковы клуб „Рух". Было гэта тады, калі Польшчу ўздоўж і ўпоперак трэсла ліхаманка забастовак. У Курашаве ж, пераадольваючы шматлікія цяжкасці, згодна і дружна сяляне будавалі сабе святліцу. І прыемна было бачыць, як яны цешыліся, калі настаў урачысты дзень адкрыцця гэтай святліцы, калі ў Курашава з'ехаліся прадстаўнікі ўлад.

(Працяг на стар. 3)

## БЕЛАРУСКІЯ МЯНУШКІ

У беларускіх вёсках многія людзі, апрача імёнаў і прозвішчаў, маюць яшчэ нейкія мянушкі. Мянушкі бываюць розныя: абразлівыя, якімі называюць людзей толькі завочна або ў сварцы, але і цалкам прыемныя і сэнсоўныя, якімі карыстаюцца амаль афіцыяльна, як дадаткам да прозвішча або замест прозвішча.

Калі і як паўстаюць мянушкі? На гэтае пытанне адказаць адназначна нельга. Паўстаюць яны пры розных нагодах і здарэннях, у якіх удзельнічае той чалавек, або акрэсленне яго характару ці паводзін. Як кожная творчасць, так і мянушкі маюць сваіх аўтараў, але гэтыя аўтары заўсёды застаюцца ананімнымі.

Мянушкі, на маю думку, часта паўстаюць з патрэбы дакладнага акрэслення чалавека, які мае вельмі распаўсюджанае імя ці прозвішча. У беларускіх вёсках часта выбае так, што некалькі чалавек маюць аднолькавыя імёны і прозвішчы. Трэба сказаць, што пры непаўторных прозвішчах ці імёнах мянушка прыдаецца рэдка. Хіба што такі чалавек „заслужыць" сабе на яе нейкай асаблівай прыкметай, смешнасцю або незвычайнасцю паводзін!

Часта бывае так, што мянушка пераходзіць з бацькі на сына, або і далей — на ўнука. Тады маем дачыненне з мянушкай сямейнай. Але бывае выключна асабістая, прыдадзеная толькі аднаму чалавеку, і паміраe яна разам з ім. Мянушкі маюць таксама сваю фальклорную вартасць і сведчаць аб вялікім пачуцці гумару ў беларусаў.

Прыдаванне людзям розных мянушак або, як кажуць на Беласточчыне — празыванне людзей, спадарожнічала сялянскаму жыццю спрадвечна. Даследчык мог бы заўважыць, што мянушкі падлягаюць гістарычным пераменам. Напрыклад, мянушкі, звязаныя з даўнейшымі падзеямі ці здарэннямі, адышлі ўжо ў небыццё. Да такіх належыць мянушка „Маскаль" (вытворныя словы: „Маскалёнкі", „Маскалёў арагод"). Калісьці амаль у кожнай вёсцы быў свой „Маскаль". „Маскалямі" называлі тых, хто служыў у царскім войску, а пасля службы вяртаўся, будаваў хату, жаніўся. Такі чалавек абавязкова атрымоўваў гэтую мянушку.

Загінулі ўжо таксама мянушкі, звязаныя з сельскім рамяством, такія, як напрыклад: „Цэбрукі", „Клепач" — (вырабляў клёпкі), „Кадушка" (тоўстая баба), „Чучальнік" (вырабляў чучалы звярыныя і птушыныя).

На шчасце, народная творчасць у гэтай галіне не гіне. Паўстаюць новыя мянушкі, звязаныя з цяперашнім жыццём і сучаснай лексікай.

Разнастайнасць і фальклорнае багацце беларускіх мянушак разгледзім на прыкладзе адной вёскі, што распалажана ў Белавежскай пушчы.

Гэтая вёска налічвае каля 60 гаспадароў. Сярод карэнных жыхароў галоўным чынам выступаюць прозвішчы: Байкс, Казак, Вашкевіч, Міцкевіч, Падляшчык, Пекач. Ёсць і іншых ужо нямала. Але гэта ўжо чужыя, прыхажэнцаў. Прыжаніліся яны тут, або пасля вайны пакупялі гаспадаркі. Некаторыя з чужых не заслужылі на гонар атрымаць аніякую мянушку.

(Працяг на стар. 4)

# НА МЯЖЫ

## АБ ПРАМІНАННІ (II)

Як жа ж часта сустракаем мы людзей, якія гавораць: „Калі б я мог захаваць сённяшні розум і пры гэтым вярнуць маладыя гады, то жыў бы зусім іншым жыццём — лепшым і разумнейшым“. На жаль, істота праміпання заключаецца ў яго беспаваротнасці. Нічога ў жыцці з таго, што праміпула, ні вярнуць, ні перамяніць нельга. Калі што-небудзь можна тут зрабіць, дык толькі зрабіць вывады з мінулага і прынамсі не паўтараць заўтра тых памылак, якія мы зрабілі ўчора ці сёння.

У самай сутнасці чалавечага жыцця ёсць геніяльная з'ява. Заключаецца яна ў тым, што чалавек не ведае свайго будучага. Не трэба мець вельмі багатага ўяўлення, каб сабе прадставіць, як страшэнна выглядаў бы свет, калі б кожны чалавек ведаў сваю будучыню, як паводзілі б сябе людзі, калі б ведалі, што ім, для прыкладу, засталося жыць год, месяц, тыдзень ці адзін дзень. Многія з тых, каго лічым нармальнымі і добрымі людзьмі, у той сітуацыі станавіліся б камбінатарамі, зладзеямі, забойцамі, грабежнікамі, гвалтоўнікамі. Усё грамадства пераўтварылася б у хаатычную масу, у якой панавала б яскравае зло. Зрэшты, невядома, ці на даўжэйшы час такое грамадства ўвогуле існавала б. Быць можа, што наступіла б яго самазнішчэнне. Мабыць, натура, фармуючы чалавека як чалавека, „ведала“ аб гэтым і запабегла такой камплікацыі вельмі простым спосабам — пазбавіла яго здольнасці пазнаць сваю будучыню і асабліва прадбачыць характар і час смерці.

Задумваючыся над бязлітаснасцю праміпання прыходзяць чалавеку ў галаў розныя, часта вельмі сумныя думкі. Часам здаецца, што чалавечае жыццё не мае сэнсу, калі чалавек родзіцца з той мэтай, каб памерці. А ўсё ж такі паміж гэтымі двума супрацьстаўнымі з'явамі — нараджэннем і смерцю — мае чалавек многа часу, многа месца і многа магчымасці на тое, каб зрабіць шмат разумнага і добрага. І што б мы не сказалі аб людзях, дык мусім прызнаць, што большасць з іх выкарыстоўвае жыццё да сеяння дабра, а не зла. А што датычыцца праміпання, дык мусім прызнаць, што з аднаго боку яно — з'ява найсправядлівейшая і найсэнсаўнейшая. Справядлівасць яго заключаецца ў тым, што яно трактуе ўсіх аднолькава: багатых і бедных, пануючых і падняволеных. За ніякія скарбы нельга яго не толькі ліквідаваць, але нават на момант устрымаць.

А сэнсоўнасць праміпання заключаецца ў тым, што вядзе яно да старэння і смерці адных, ствараючы магчымасці для нараджэння другіх. Дзякуючы яму наступае вечнае амаладжэнне свету. Зрэшты, гаворачы аб праміпанні, мусім думаць не толькі аб чалавеку, але і аб усім тым жывым, што існуе вакол чалавека на зямлі.

Зразумела, што сказанае мною мала пацешыць старога чалавека, які заўсёды будзе глядзець на свет з горычу і прэтэнзіямі з-за сваёй асабістай біды, сваёй перспектывы смерці. І ўсё-такі, пажылы чалавеча, задумоўваючыся над тым, што было прыгожае і так хутка і беспаваротна праміпула, памятай, што ты толькі адна з тых мільярдаў жывых істот на зямлі: людзей, жывёлаў, птушак, насякомых і раслін, якія пазвіліся і прападуць, каб даць месца новым істотам на зямной кулі. І хочам мы, ці не хочам, але мусім пагадзіцца з тым, што ўсё, што нарадзілася, мусіць памерці.

**Алесь Барскі**

(Працяг са стар. 1)

# ПЯЦЬ ДЗЁН У ГАСЦІНЕ

таецца новымі прамысловымі аб'ектамі і жыллёвымі кварталамі на абодвух берагах Нёмана. Далёка на гарызонце, сярод наднёманскіх пагоркаў і пералескаў, свецяцца свежымі каляровымі тынкамі здадзеныя ва ўжытак жыллёвыя гмахі, і многа яшчэ іншым стрэлы кранаў выцягваюць стромкія сцены з кучаравай зеляніны.

Кожнаму, хто прыязджае ў гэты старажытны горад, пераўтварэнні ў ім відаць ужо на чыгуначным вакзале. За колішнім, хоць і вельмі сімпатычным, але зацесным як на сучасны гарадскі цэнтр, вакзальчыкам вырастае аграмадная збудаванне з бетону і шкла новага вакзала. На яго фоне памятаючы асобы Элізы Ажэшка і Францішка Багушэвіча маленечкі будыначак выглядае як вынуты з музейнай вітрыны экспанацік. Я ў захапленні сучаснай арыгінальнай архітэктурай і велічнасцю новага гмаху, але і з жалем гляджу на блакітнасценнае, з вузенькімі акенцамі маленства, у якім запісалася болей стагоддзя гісторыі Гродзеншчыны і якое дажывае апошнія свае гады. На жаль, такія ўжо правы грамадскага развіцця.

Пасля ўсмажлівага дня надвячорак дыхнуў асвяжаючай прахаладдзю, і тратуары запоўніліся каляровым патокам шпацыруючых. Цяжка заўважыць якую-небудзь розніцу ў адзежы ці абутку ў гродзенцаў з беластачанамі ці варшавянамі: той жа джынс, штрукс ды адыдас на моладзі, тыя ж элегантныя ўборы на дарослых. Але ў паводзінах гродзенцы выпадаюць больш карысна: у іх не відаць лішняй, прытворнай спешкі і занятасці, яны больш таварыскія, камунікатыўныя. Адначасова непараўнальна болей развязлівыя, паўстрыманыя, дысцыплінаваныя, і ў слове і ва ўчынках. Гэта асабліва яскрава кідаецца ў вочы вечарам ля ўваходу і ў зале рэстарана гасцініцы „Беларусь“, дзе кожны вечар адбываецца дыскатэкі. Весялосць, смех, жарты, але ўсё гэта культурна, без крыклівасці, дзівачнасці, вычварання. Навейшыя сучасныя мелодыі — самыя модныя баевікі з усяго свету — чуваць з рэпрадуктараў, такія ж формы танца відаць на паркеце, аднак усё гэта без крыўляння, напускнога экстазу, непрыстойнай чулліваcці. Аж прыемна глядзець.

Гэтай грамадскай сталасці, павазе і пашане да сябе і іншых, якая ўласціва савецкім людзям, прыпісваю я і тую чысціню, дагледжанасць гарадоў і мястэчак у СССР, а з іх Гродну належыцца адно з першых месц. Хоць Беласток лічыцца адным з добраўпарадкаваных гарадоў у Польшчы, але да стану гродзенскіх тратуараў, маставых, сквераў, паркаў яму вельмі-вельмі далёка. Цэнтр Гродна забудаваны старымі камянічкамі з XIX стагоддзя, а шмат якія з іх памятаюць часы Тызенгаўза, калі ў канцы XVIII ст. гэта была сталіца славутай Гродзенскай эканоміі. Але нідзе не відаць тут руінаў, занядбаных будынкаў ці нават пашкоджанага тынку. Кожны домік старанна дагледжаны, з густам памаляваны, кожны падворак упарадкаваны, вымецены, кожны агародчык аброблены, ухвечаны, кожны плоцік наладжаны. Проста з зайздрасцю глядзіш на гэта, асабліва калі маеш уваччу агідныя беластоцкія руіны на Баярах, дзесяцігоддзямі не чышчаныя сметнікі на Песках, заглохлыя ў крапіве, лапухах ды бузіне задворкі на Варшаўскай, Сянкевіча ці цэнтральнай — Ліповай.

Аня Радзюкевіч з „Газеты Вспулчэснай“ — спецыяліст па будаўніцтву, знаўца сучаснай архітэктуры. І з акон машыны і потым з-за шкляных сцен фае высотнай гасцініцы „Беларусь“, у якой будзе наш пяцідзённы прыстанак, яна звяртае ўвагу на высокамастацкія вырашэнні гродзенскімі будаўнікамі шэрагу вельмі складаных, цяжкіх праблем у гарадскім будаўніцтве, майстэрскае выкарыстанне прыроднага ландшафту і старога будаўніцтва, іх уменне ўзводзіць з панелей (вялікай пліты) здзіўляючыя сваёй разнастайнасцю і дэкорам, прыгожыя будынкі, нават у жыллёвых кварталах. А вяршыняй майстэрства гродзенскіх будаўнікоў яна лічыць арыгінальны гмах Гродзенскага драматычнага тэатра. Ажыццяўленне такога надзвычай складанага архітэктурнага твора пад сілу толькі высокакваліфікаванаму калектыву вялікага сучаснага будаўнічага прадпрыемства.

На зялёны і рухлівы горад на Нёмане апускаецца вечар. За вячэрай, у сяброўскім кругу з нашымі гасціннымі гаспадарамі, не спыняюцца ў нас размовы і пра самае важнае ў жыцці нашых краін і народаў, і пра штодзённае, звычайнае, чалавечае, з якога складаецца наш побыт.

Доўга за поўнач я не мог заснуць. Ці таму, што на свежым месцы, ці з-за роздумаў над тым, што сённяшняе Гродна — гэта зусім іншы горад у параўнанні з тым Гроднам, якое я бачыў 25 год таму назад. Разважаў, а ў акно свяціла мне чырвонымі агнямі новая вышэзная мачта Гродзенскага радыё і тэлебачання, тая самая, з якой перадачы мы з зацікаўленнем слухаем і глядзім на нашай Беласточчыне.

**Мікола Гайдук**
Фота аўтара



Памятны здымак з намеснікам галоўнага рэдактара „Гродзенскай праўды“ І. Багіно, пісьменнікам А. Карпюком, працаўнікамі Гродзенскага універсітэта і Гарадской бібліятэкі на фоне доміка Э. Ажэшка.

# Беларускі фальклор

## II

Вяртаючыся да акту сватоў, трэба сказаць, што сват і яго падапечны, увайшоўшы ў хату дзяўчыны, перш за ўсё ўзнімалі позірк і паглядалі на столь. Вынікала гэта з таго, што нельга было ім у ніякім выпадку перайсці пад першай ад парога бэлькай. Калі б быў зломаны гэты прынцып, азначала б гэта, што вяселля не будзе.

Стоячы пры парозе, прышэльцы пачыналі загадкавы і сімптомны дыялог, які як бы меў увесці ў зман гаспадароў. Аднак гаспадары вельмі хутка разумелі, які характар мае візіт і чаго хочуць госці. Ужо з узгосту гасцей і з іх вопраткі, а таксама з факту таптання пры парозе гаспадары здагадваліся, што маюць дачыненне са сватамі. І нягледзячы на гэта, а можа якраз з гэтай прычыны, пачыналі весці з гасцямі спекулянцкую гульню, якую ўфармавала адвечная звычаёвасць.

Прышэльцы, як правіла, прыкідваліся заблуканымі вандроўцамі і прасіліся на начлег. Часта гаварылі, што яны — паляўнічыя і што гоняць звярыну, якая схавалася якраз у гэтым доме. Даказвалі, што ўцякала ад іх козачка, ласіца, куніца або галубка і, калі гаспадары дазволяць, дык яны пашукаюць яе ў хаце.

Трактоўка маладога хлопца як паляўнічага, а дзяўчыну як козачку, выступае, між іншымі, у песні з паўднёвай часткі Гайнаўшчыны.

Эй, сонічко над лесом пробігае,
Про козачку охотнік пытае.
А месячык над дубровою
колісом точыг,
Раз бачылі козаньку яго очы.
Чы пошла б, дзевонько, з ім
шукаці
І дорожку ему показаці?

Калі дзяўчына была прыхільна настроена да маладога паляўнічага, адказвала:

Ой, скажы татачку, хай мене
гукае,
Хай тую козаньку, шчасліво
шукае.

У выпадку адмоўных адносін да сватоў, яна спявала:

Ой, скажыце, татачку: я баюся
ночы,
Не пайду псаваць свае ясны очы.
Ой, скажыце, родненькі: нехай
не гукае,
А ліповэ лыко на постол шукае.

У сувязі з тым, што ў часе абраду сватання не выконваліся ніякія песні, прыведзеныя тэксты спяваліся падчас наступных вясельных актаў.

Вяртаючыся да акту сватання, хочам паінфармаваць, што сваты найчасцей падаваліся за купцоў, якія даведаліся, што гаспадары прадаюць „цялушку" або „жаробку" і яны намерваюцца яе купіць. Паводле разумення гаспадароў, хуткі прыхільны прыём сватоў быў бы праявай

(Працяг на стар. 5)

(Працяг са стар. 1)

✻

Найбольш, аднак, праславілі гэтую вёску тамтэйшыя жанчыны, аб'яднаныя ў гуртку вясковых гаспадынь і ў гуртку Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Са сваім самадзейным калектывам аб'ездзілі яны цэлую Беласточчыну. А ў роднай вёсцы ніводная ўрачыстасць, ніводная важнейшая сустрэча не абышлася без удзелу гэтых расспяваных, бойкіх жанчын. Апрацаваныя імі песні, напрыклад, тая пра буракі і самагонку, папоўнілі рэпертуар многіх іншых народных калектываў.

Правадыр курашаўскіх кабетак — Ніна Грыгарук, якая цяпер працуе гаспадыняй у курашаўскім клубе „Рух". Заўсёды вясёлая, жыццерадасная, бадзёрая, невысокага росту, чарнявая

# Вяселле у Курашаве

жанчына, для якой, здавалася б, не існуюць аніякія беды і жыццёвыя цяжкасці. Але я ведаю, што гэта няпраўда. Разам з мужам, Мечыславам, („Я — Міцька", — адзначае ён заўсёды, калі мы сустрэнемся) на высокім узроўні вядуць яны немалую гаспадарку. Апрача таго Нінка займалася скупкай яек, арганізавала розныя конкурсы для жанчын, вучыла іх кройкі і шыцця (яна і сама краўчыха!), гатавання, пячэння. Яны супольна вырошчвалі лён, каб здабыць грошы на грамадскую дзейнасць, супольна куплялі і гадавалі куранят ды супольна спявалі, ездзілі па аглядах і фэстах. Выручалі кіраўніцтва БГКТ, калі трэба было наладзіць мастацкую частку на нейкай урачыстасці ці спатрэбілася падрыхтаваць багаты прыём для важных гасцей, у тым ліку і замежных, напрыклад, беларускім пісьменнікам. Такая яна, Ніна Грыгарук.

✻

Недзе пад канец красавіка гэтага года я зусім выпадкова даведаўся, што курашаўскія Грыгарукі выдаюць замуж сваю другую дачку. „На гэтым вяселлі я мушу пабываць!" — рашыў я і разам з жонкай адправіліся мы ў Курашава, нягледзячы на тое, што маладыя нас не прасілі на сваё вяселле.

— О, як добра, што вы прыехалі! — радасна ўсклікнула Нінка, маці маладой. — Калі ласка, вам фартух! — яна звярнулася да маёй жонкі, якую першы раз пабачыла ў жыцці. — Паможаце маім сяброўкам нарыхтаваць „татар" і ўсё іншае застолле, а вы, — яна звярнулася да мяне, — паварочвайце сваю машыну і паедзеце ў Катоўку за курыцай! — І ўсё гэта было сказана з такой усмешкай, так прывабна, што грэх было б адмовіцца ад гэтай нібы прапановы, нібы загаду.

Я нават не запытаў, чаму „вясельная маці" хоча, каб я прывёз ёй курыцу з суседняй вёскі. Ці яе куры госці ўжо з'елі? Незадоўга, аднак, я сам пераканаўся, што гэта сапраўды своеасаблівая „курка", бо гэта — „курыца-торт". А ў Катоўцы ёсць спецыяліст, які вырабляе



„Жадаем табе, дачанька, шчасця, здароўя і спакою на новай дарозе!" — Мечыслаў і Ніна Грыгарукі адпраўляюць сваю дачку Людмілу да шлюбу.

торты ў выглядзе курыцы. Хопіць яму даставіць усе неабходныя прадукты і заплаціць яшчэ 500 злотых за работу і можна ўжо ўпрыгожыць вясельны стол салодкай „куркай", якая сядзіць на гняздзе, быццам жывая, прадказваючы маладым удалае, доўгае і шчаслівае жыццё.

✻

Я пытаўся пра каравай, з якім неразлучна было звязана колішняе вяселле ў многіх нашых вёсках. Аказваецца, што звычай нарыхтоўкі вясельнага каравая даўно ўжо звёўся ў Курашаве. Каравай цяпер падмянілі торты. Яны і ў Грыгарукоў стаялі на кожным стале. Нават малады, калі прыехаў забіраць сваю маладую да вянцу, таксама аж з Беластока прывёз адмыслова зроблены, вялікі вясельны торт.



„І ўзлажыў есі на главах іх венцы!" — гаворыцца ў свяшчэнным пісанні. Людміла і Андрэй пачынаюць сваё новае жыццё.

✻

Каля абеду бацькі маладой папрасілі гасцей за сталы пачаставацца перад ад'ездам да шлюбу. Зышлося і з'ехалася больш за 150 чалавек. Маладую, прыгожа апранутую ў багатую беласнежную сукенку і ў вэлюме, пасадзілі „на покуці", пад іконамі. А сталы аж гнуліся ад усялякага дабра.

— Што нам скупіцца! — гаварыў мне вясельны бацька, гэты Міцька. — Няма болей для каго ў нас старацца — яна ў нас ужо апошняя. Старэйшую дачку выдалі мы замуж некалькі гадоў таму назад. Асталіся тут у вёсцы самі. Дык чаго ж шкадаваць, хай людзі добра ўспамінаюць нас і нашых дачок!

✻

Сапраўды, абедзве дочкі Грыгарукоў усталяваліся ў Беластоку. Старэйшая працуе ў „Фастах", малодшая, Людміла, стала цырульніцай, значыць, фрыз'еркай, як кажуць у Курашаве. Яе цяперашні муж, Андрэй, спецыяліст па рамонту аўтамабіляў, ужо радавіты беластачанін, хаця яго бацькі паходзяць з Подваркаў.

Ля хаты Грыгарукоў спыніўся вялікі аўтобус. Гэта малады са сваімі гасцьмі прыехаў за маладой, каб забраць яе „пад вянец".

Царква ў Курашаве на месцы. Ад Грыгарукоў у царкву не больш кіламетра. Маладыя, аднак, і іх госці адправіліся туды аўтамабілямі, маладая шведскім „вольвам". Толькі пыл хвастом доўга клубіўся за вясельнай калонай упрыгожаных аўтамабіляў.

Айцец Георгій Ацкевіч зрабіў сваё, што прадбачвае царкоўны ўстаў і абычай, і шматлікая калона аўтамабіляў (на чале з „вольвам") зноў ледзь паспела разагнацца і мы вярнуліся ў вясельны дом. Уезд на панадворак загарадзіла нейкая „цыганка", у якой я пазнаў адну жанчыну з курашаўскага калектыву і маладому прыйшлося выкупляцца.

А пасля быў ужо „пір на ўвесь мір": хто колькі хацеў і чаго хацеў. Былі танцы, перапіванне з маладымі, складчыны „на ўспамаганне"... Адным словам, пад гоман песень, музыкі і сяброўскіх гутарак вяселле працягвалася аж да раніцы.

На жаль, не было гэта ўжо традыцыйнае беларускае вяселле, якое спраўлялі нашы дзядыпрадзеды. У гэтай галіне гарадскія, „панскія" абычаі поўнасцю авалодалі нашымі вёскамі. Нават такой беларускай па сваёй натуры, як Курашава.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

У Гарадку вечарамі штораз цішэй. Час ад часу грымне вяселле з рамізы над Супраслюракой, ці ў Борыку, ва ўрочышчы, на „плашчадцы" загучыць беластоцка-еўрапейская песня. Прыехалі хлопцы з Семяноўкі, сарганізавалі забаву па 250 злотых ад „галавы", і цяпер ніхто таннейшых арганізаваць не хоча. Хочаш пагуляць, хлопча, не пі, не куры, бо ў нядзельку з дзеўкаю не патупаеш. Моладзі, якая не працуе, даводзіцца прасіць грошай у бацькоў, або бегаць пад дзвярыма Гміннага дома культуры, які стаіць на славу, але дзе, кажуць, культура патухла і пратухла. За высокія парогі, за высока элітарная клямка да першага паверха, дзе царстваваў дырэктар ГОКа.



# Штораз цішэй

*

— Тут, у вёсцы, гавораць, што ваш тэатр лялек дабіўся поспеху, — звяртаюся да дырэктара ГОКу.

— Таааак? То ідзіце да інструктара.

У пакойчыку на сталах ляжаць вялікагаловыя лялькі, стаяць мішкі на калочках, валяюцца каляровыя абрэзкі, клей, ножніцы. Нікуды не павернешся — пад сцяною стаяць інструменты.

— Мы тут і працуем, — кажа пані Вяслава Самойлік. — На паверсе стаіць пусты клуб, туды я і пайшла б са сваімі шырмамі, лялькамі і артыстамі. Але ці ж можа быць гміна без клуба? У нас тут больш калідораў, чым пакояў. У гэтым пакойчыку няма як дзецям павярнуцца. А дзеці жывыя, бегаюць, цешацца. Лялька таксама не можа ляжаць у кутку. Шырмы прыдалося б зрабіць у сталярні, а то я сама іх клею. Колькі было дзялоў з простымі калочкамі! Я ж сама іх не зраблю! У сталярні кіраўнік згадзіўся даць дрэва — але ж я не столяр. За абрэзкі матэрыялаў нават трэ было заплаціць, а ляльку трэба адпаведна адзець. І галаву з пап'е-машэ вымадзіць, высушыць... Спачатку многа дзяцей прыйшло. Бацькі сталі не дазваляць, бо пачалі дзеці пазней вяртацца, выпэцканыя клеем і фарбамі. Асталося дзесяць дзяўчынак. Хлопцы саромеюцца гуляць лялькамі? Усе малышы, бо старэйшым ужо не да вершыкаў, малюнкаў, конкурсаў... Ім даць бы толькі „дыскатэку" і ўсё. І ўсе так. Куды не зойдзеш — нікому не хочацца табе памагчы. Колькі я набегалася за машынай: і школа, і „Каро", і ніхто не мог яе даць на агляд. Нарэшце прыехаў па нас адзін чалавек з Беластока, даў рахунак на 4 тысячы, а вернуць мне 3,5. Наш калектыў на аглядзе тэатраў лялек заняў другое месца. Наша п'еса музычная, „Прагныя мядзведзікі". А дзе нам да музыкі, калі ў гміннай школе няма спецыяліста! Поўна настаўнікаў, без кваліфікацыі, а для музыкі вольнага месца няма. Зрэшты, з гэтым усюды цяжка... Іншыя „тэатры" дык адразу відаць, што грошы маюць: і матэрыялы добрыя, і шырмы стаяць моцныя, а не, як у нас, могуць упасці... Мае дзяўчынкі ўздыхалі: „Ох, каб у нас зрабіць тэатр лялек! Хопіць у вялікай зале дома культуры паставіць невялічкія драўляныя кулісы, каб дзеці свабодна маглі кіраваць лялькамі..." Пасля нашага выступлення ў Беластоку прыйшло больш дзяцей — прывялі іх „старыя" артысткі. Можа прыдуць і хлопчыкі?

ВІТ „завітаў" у Гарадок, парадкі на вярхах парабіў. Няхай новыя людзі пачынаюць нова. Шкада толькі, што за грахі адных плацяць іншыя.

*

Споўдаемся па разрослым, прыгожым гарадоцкім парку. Прыселі. Сеў каля нас хлапчук год 20-21, апрануты ў чорную кашулю з англійскім надпісам і старанліва выцертыя джынсы. Хлапец выцягнуў доўгія ногі, абутыя ў модныя „адыдасы".

— Адкуль ты? — ён звярнуўся да мяне, зіркаючы на маю залаціставаласую сястру.

— Адсюль.

— А я цябе згэтуль не памятаю.

— Калі я тут была, ты яшчэ ў кароткіх нагавічках у пясочку гуляў.

— Вось, дасціпна. Ты што думала, я ўжо кончыў дваццаты год. А табе, пэўна, і таго няма.

— Чаму ж не, ёсць.

— Ну і чаго падскакваць да старэйшых.

— Праўда. Мне ўжо, скажам, дваццаць пяць.

— Ой, вады! А ты, малая, — ён звярнуўся да Алінкі, — скажы, лжэ яна, быццам нанятая, што?

— Можа і лжэ, — усміхнулася тая.

— Бач ты яе, а то надумала мяне ашукваць. Мяне! А я ў людзях разбіраюся, асабліва ў дзяўчатках. Вось гэтая, глянь-це, скура. Ну, тая, што там ідзе ў чорных нагавіцах. Сцёгны мае наўсцяж, быццам у дзяцінстве з бочачкаю хадзіла. Эксплуатаваная, як стары рабочы конь. Яна...

— Яна мяне не цікавіць! — скрывілася Аліна.

Мы пасядзелі ціха.

— Ну, як вам падабаюцца нашыя хлопцы? Смакавітыя, што?

— Ну не думай ты, коцік, што мы так прагаладаліся! — засмяялася я. — Мы сюды прыехалі з... можна сказаць, з даследчай мэтай.

Ён доўга і вельмі цікава расказваў нам сваю біяграфію, асабліва — дзе быў, дзе піў, дзе біў.

Ён падсунуў нам валасатую руку, з ружовымі і белымі рубцамі:

— Лязо. Шкло. Нож. Жалеза. Цвік. Бляха. А вось тут зноў лязо.

Ён глядзеў на нас пераможна, можа спадзеючыся ў нашых вачах калі не захаплення, то хаця б здзіўлення.

— Піла, — выцягнула Аліна свой палец.

— Серп, — паказала я свой мізінец з шырокім, быццам гусеніца, крывым рубцом.

— Малаток, — падняла мая сястра ўказальны, пабіты ў дзяцінстве пры будове шпакоўні.

*

Мы сядзелі доўга ўначы на халодных ступенях усходаў Дома культуры. Горад драмаў. Пранізлівы вецер з-над Супраслі нёс тапаліны пух.

— Ведаеш, гэтыя таполі, аднак многа падраслі на працягу гэтых сямі год, — сказала я Андрэю.

Таполі хутка растуць, ды цела іх нетрывалае і непрыдатнае. А што пакінем тут мы, сябры?

**Міра Лукша**

**Фота Я. Целушэцкага**

# Беларускія мянушкі

(Працяг са стар. 1)

можа якраз таму, што мелі іншыя, непаўторныя прозвішчы. Так было з колішнім жыхаром вёскі па прозвішчу „Баканач". Быў ён адзіны ў вёсцы, жонку яго, як правіла, звалі „Баканачыхай", і толькі на старога казалі пад старасць „Гарбуль", таму, што пачаў у яго расці горб. Другі прышэлец без мянушкі — гэта рабочы з Тартака па прозвішчу Турык. Гэты чалавек прыехаў аж з-за Гайнаўкі ў 20-х гадах, пабудаваў сабе хату пад лесам і нават тое месца пачалі называць „каля Турыка". Жонку яго заўсёды звалі толькі — „Турычыха" і ніхто не стараўся нават даведацца яе імя.

Інакш было з двума беларусамі, якія прыбылі сюды аднекуль з Гродзеншчыны і прывезлі з сабою мяккую, як тут кажуць, „віленскую" гаворку. Аднаго з іх празвалі: „Вяроўка" (тут кажуць цвёрда: „вароўка"), а другога — „Нешта" або „Вілянец" (у мясцовай гаворцы слова „нешта" не ўжываецца).

А вось некаторыя мянушкі карэнных жыхароў: „Кудзеля" — такую мянушку меў жыхар вёскі, які надта любіў жаночую працу. Памагаў ён жонцы пры апрацоўцы лёну, а нават і за кросны сядаў. „Кудзеляй" або „Кудзелькай" звалі яго ўсё жыццё. Нашчадкаў не меў, калі памёр Іван „Кудзелька", памёрла і мянушка.

„Злоцік" — даўнішні жыхар вёскі, ён любіў усё змяншаць: „мая кароўка", „загончык земелькі", „мае вы залаценькія" — вось як зарабіў „Злоціка". Жонка — „Злоціха", дзеці — „Злоцікавы". Пасля вайны сям'я гэтая пасялілася недзе ў Савецкай Беларусі.

„Надуты" — такую мянушку жыхары вёскі далі вельмі ганарліваму селяніну ў сувязі з яго не надта прыемным характарам.

„Калючы" — прычына ў характары: востры язык, насмешлівы — усіх „уколе".

„Бачковік" — такую мянушку меў селянін па імю Антоній (так менавіта вымаўлялі яго імя). Ён надта любіў хадзіць па лесе, ведаў усе алёсы ды іншыя недаступныя месцы і збіраў грыбы, якія называў па-свойму: багноўкі, багнюкі, хаця такіх ніхто не збіраў. Мянушка перайшла на сына, аднак быццам бы не пасавала да яго — іншы характар, не тое ўжо замілаванне да лесу. Мае ён адзінае ў вёсцы імя Амяльян, так што толькі зрэдку кажуць на яго: „Бачковік".

„Блізнюк" — уласнік гэтай мянушкі быў з блізнят. Усе (завочна) называлі яго гэтай мянушкай, жонку звалі „Блізнючыхай", а дачок і сыноў — „Блізнюковы".

„Базылюкі" — таксама бывае прозвішчам, але ў нашым выпадку гэта мянушка. У вёсцы жыве трох братоў, якіх так празываюць. Яны — сыны Андрэя. Але таму, што гэтая мянушка сталася сінонімам дрэннага характару, нязычлівасці ды сварлівасці, можна здагадвацца, што ў гэтай сям'і быў нейкі варавіты продак па імю Базыль. Гэтая мянушка цягнецца за імі ўжо некалькі пакаленняў.

„Казіброд" — сам ужо не жыве, але яго нашчадкі не вызваліліся ад гэтай мянушкі. Паходжання яе нельга ўжо выявіць. Быццам бы звязана яна з нейкім здарэннем у бродзе рэчкі.

„Бухара" — надта прыліпла да аднаго вясковага рамесніка. Ён, яго дзеці і жонка — усе пагадзіліся з гэтай мянушкай. Калі хто дапытваецца, чые яны, то так і адказваюць: „Бухарыны". Чаму гэтак яго завуць —

# ШТО У НАС?

У нас, значыць: у Гданьску. Песенны гданьскі калектыў пад кіраўніцтвам Анатоля Валігонка пасля поспехаў у Беластоку на аглядзе „Беларуская песня-85“ вярнуўся ў Гданьск і 25 мая выступіў у Гданьскім клубе БГКТ. Аня Іванюк прывітала прысутных, а з'явілася іх у клуб многа. На Доўгім Таргу, у сэрцы старога горада, плылі мелодыі мілыя кожнаму сэрцу. Зала заціхла. Жаночы калектыў выканаў дзве беларускія песні: „Вечар за рэчкаю“ і „Каліну“. Паверце, кожны з прысутных узнёсся на крылах мелодыі дзесьці далёка за сваю рэчку, туды, куды па-сапраўднаму ніколі ўжо не вернецца, а яго рэчка застанецца толькі трывалым следам у яго памяці.

Потым быў дуэт Ані і Ірыны Гаданчук. Праспявалі яны дзве песні: „Не шукай“ і „Явар і каліна“. Потым наша салістка Аня Гаданчук спявала „Алесю“ і „Мой родны кут“. Вельмі прыгожа! Сталася так, што якраз песня „Мой родны кут“ і гданьскія куранты на суседняй ратушы прагучэлі ў адзін час і ў адзін тон, так як быццам тыя куранты акампаньявалі беларускай песні. І хто скажа, што мастацтва не мае ўласцівасцяў агульначалавечых і звышчасовых?

Напэўна кожны беларус ведае словы Якуба Коласа: „Мой родны кут, як ты мне мілы, забыць цябе не маю сілы...“ І вось словы гэтыя, прыбраныя ў мелодыю, слухаеш і думка лунае далёка, ляціць туды — на зялёную падляшскую раўніну, якая абавязкова канчаецца на гарызонце сцяной Белавежскай пушчы.

Салісткі і змешаны калектыў Гданьскага клуба БГКТ спявалі яшчэ: „Бярозку“, „Ты мне вясною прыснілася“, „Мяцеліца“ і іншыя. Песні аб каханні і радасці, песні сумныя і вясёлыя. І, здаецца, было іх так мала, хоць і не мала. Адным словам, вялікае дзякуй гданьскім беларускім артыстам за багаты вечар.

**М. Куптэль**

(Працяг са стар. 3)

## БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

комплексу іх непаўторнасці, таму даволі доўга давалі яны двухзначныя адказы, прыкідваючыся, што не разумеюць, чаго датычаць намёкі сватоў. Вялі яны са сватамі двухзначную размову, гаворачы, што хіба госці не маюць аж такой вялікай сумы грошай, за якую яны маглі б прадаць сваю цялушку або жаробку, або што іх жаробка яшчэ маладая і не патрапіць хадзіць у пары. Сват адказваў, што якраз яны спецыялісты, якія ўмеюць прывучыць жаробку да парнага жыцця.

**А. Баршчэўскі**



# СУСТРЭЧА З АРЛОНЕМ

У палове мая г.г. у Белавежы і Гайнаўцы гасцяваў запрошаны Гайнаўскай гарадской бібліятэкай пазнанскі пісьменнік Мар'ян Арлонь. Сустрэўся ён тут з сваімі чытачамі — школьнай моладдзю, для якой напісаў дагэтуль каля 20 кніжак, сотні апавяданняў, некалькі радыёпастановак і сцэнарыяў кароткаметражных фільмаў. Літаратар расказваў аб сваёй творчасці, адказваў на пытанні ўдзельнікаў сустрэч, падпісваў свае кніжкі. У час свайго прабывання наведаў Белавежскі прыродазнаўчы музей і Палацовы парк, а таксама Гайнаўку. Выехаў задаволены і сустрэчамі, і пабыўкай.

**П. Байко**, фота А. Дамашэвіча

# БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

У кнігарні імпартных выданняў у Беластоку можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

**Вяселле. Песні.** Кніга трэцяя, 1983, стар. 768, цана 166 зл. 50 гр.

Чарговая кніга са шматтомнага збору „Беларуская народная творчасць“, які ўжо 15-ы год паслядоўна рэалізуе Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. У кнігу ўвайшло каля 700 вясельных песень (звязаных з паасобнымі асобамі і этапамі вясельнага абраду: песні сіраце, вянчанне, у доме маладой перад прыездам маладога), у тым ліку каля 30 твораў з Паўночнага і Паўднёвага Падляшша (з іх каля 10 з „Нівы“ і „Беларускага календара“). Складальніца тома і аўтар глыбокага, удумлівага ўступнага артыкула — вядомы беларускі фалькларыст Л. А. Малаш. Музычную частку падрыхтавала беларускі музыказнавец З. Я. Мажэйка.

Яніцкая М.М., **Беларускае мастацкае шкло. XIX — пачатак XX ст.**, 1984, стар. 143, цана 96 зл.

Першая ў беларускім мастацтвазнаўстве абшырная і грунтоўная кніга пра гэты від прыкладнога мастацтва на Беларусі, які меў выдатныя дасягненні і высока цаніўся не толькі на беларускіх землях. Багата ілюстравана, таксама каляровымі здымкамі. Знаходзім у ёй звесткі і пра гуту шкла „Нараўка“ і бліжэй невядомы шклозавод у Бельскім павеце.

**Народная спадчына,** 1984, стар. 208, цана 24 зл.

Зборнічак выбраных твораў беларускага фальклору (песні, казкі і легенды, прыказкі і прымаўкі, загадкі, прыпеўкі), які знаёміць з самымі каштоўнымі з'явамі ў вуснай творчасці нашага народа ў мінулым і сучаснасці. Кароткія, змястоўныя і даходлівыя артыкулы пры кожным відзе творчасці ўмела знаёмяць з асаблівасцямі і багаццем гэтага мастацтва. Складальнікі томіка — вядомыя беларускія фалькларысты А. С. Фядосік і Г. А. Пятроўская.

Маеўская Н., **Такая позняя вясна,** 1984, стар. 208, цана 60 зл.

Аповесць („Пажар“) і некалькі апавяданняў, заснаваных на назіраннях аўтара над жыццём, думамі і імкненнямі сучасных беларусаў.

Кнігі можна таксама атрымаць па пошце. Запатрабаванні накіроўвайце па адрасу:
**„Dom Książki”, ul. Kilińskiego 10, 15-085 Białystok.**

(мг)

дакладна невядома. Яму ўжо за 60 гадоў, а мянушка цягнецца за ім яшчэ з маладосці.

Да цікавейшых мянушак, звязаных з падзеямі, можна залічыць наступныя:

„Томскі“ — поўнасцю было: „дзядзя Томскі“. Гэты селянін па імю Кірыла ў час бежанства забіўся далёка ў Расію. Давялося яму быць у горадзе Томску. Чамусьці ён гэтым надта ганарыўся. Многа і цікава расказваў пра гэты горад. Усе жыхары вёскі так прызвычаіліся да гэтай мянушкі, што ўжо трэцяе пакаленне „Томскіх“ жыве ў вёсцы. Калісьці дочкі „дзядзі Томскага“, знаёмячыся з кімсьці чужым, падаваліся за „Томскіх“ замест сапраўднага прозвішча.

„Валыняк“ — падобная справа, як з „Томскім“. Гэты чалавек ў бежанстве быў на Валыні. Там ажаніўся. Калі прыехаў на бацькаўшчыну, пахваліўся, што прывёз Дуню-валынячку. Сам астаўся „Валыняком“. Усе яго самога і яго жонку звалі гэтак і яны не абражаліся за тое.

„Зусел“ — гэтая мянушка мае цікавае паходжанне. Менавіта ў 1922 годзе ў маладога гаспадара па імю Аляксандр пасяліўся нейкі афіцэр з арміі Балаховіча, якіх тады многа знаходзілася ў Белавежскай пушчы. Афіцэр называўся, як некаторыя старэйшыя жыхары казалі, Суслоў (або Зуслоў, што менш праўдападобна). Неўзабаве ён застрэліўся ў клуні гэтага гаспадара. Здарэнне патрасло ўсю вёску. Людзі доўга гаварылі аб ім. А калі хтосьці хацеў дакладна акрэсліць Аляксандра (а ў вёсцы было іх некалькі), казалі: „Ну, той Сашка, што Зуслоў застрэліўся“. А таму, што беларусы маюць схільнасць да скарочвання прозвішчаў, то з Суслова зрабілі Зусла і так назвалі гэтага гаспадара, дзе было тое здарэнне.

„Пшаніца“ — гэтая прыемная, сямейная мянушка ўзялася адтуль, што дзед сучасных ужо „Пшаніцаў“ першы пачаў сеяць пшаніцу. Пасля сеялі і іншыя гаспадары, але ён, як піянер гэтай справы, заслужыў сабе на такую мянушку.

Мянушкі паўстаюць таксама ад нейкай знешняй прыкметы, ці выгляду чалавека.

У вёсцы было двух Васілёў, што мелі аднолькавыя прозвішчы. Аднаго назвалі: „Чорны Васіль“, бо сапраўды ён чорны: чорныя валасы, чорныя, бы вугельчыкі, вочы, цёмны твар. Другога звалі „Васька Дрыкс“, бо той меў прыкмету: прыгаворваў — „Дык-с“, а яшчэ, гаворачы, надта смешна махаў рукамі ды падрыгваў.

„Ду-ду-ду“ — чалавек гэты заікаўся. Падхапілі тое насмешнікі і так яго назвалі.

„Камзытка“ — гэтую мянушку прыдумаў сам яе ўласнік. Цягнецца яна за ім ад дзяцінства. Калісьці, як пайшоў у школу, маці пашыла яму нейкую безрукавую адзежыну. Дзеці смяяліся з гэтай яго вопраткі, а ён не сказаў, што маці пашыла камізэльку, але „камзытку“. Так і астаўся „Камзыткай“, а яму ўжо неўзабаве 80 гадоў.

„Максымэрус“ — некалькі гадоў назад памёр гэты чалавек, які нічым не адрозніваўся ад іншых. Меў адзінае ў вёсцы імя Максім. Чамусьці, аднак, не задавальняла гэта людзей і замест Максім, звалі яго Максымэрус.

Доўгажывучымі з'яўляюцца мянушкі, якія паўсталі ад прафесіі, напрыклад:

„Шэўчыкі“. Калісьці адзін з жыхароў займаўся крыху шавецтвам. Сам „Шавец“ памёр надта даўно, „Шаўчыха“ пасля вайны, але яго сыны, якія нічога супольнага не маюць з гэтай прафесіяй, дасюль — „Шэўчыкі“.

„Войтавы“ — аднаму Міцкевічу давялося калісьці (ніхто дакладна не ведае калі) пабыць крыху войтам. Даўно памерлі: „Войт“, „Вайціха“ і іхнія сыны, але асталіся ўнукі, якія ў спадчыне атрымалі гэтую мянушку.

Здараецца часта, што ў чалавечым твары можна дагледзец-

(Працяг на стар. 6)




# ЧАМУ ТАК?

Петручук мяне запытаў: „Ці вы не замала пішаце ў „Ніву“?“ Тут яшчэ сказалі, што ганарар можа быць ахвяраваны на музей. Давай, думаю, напішу і я аб жыцці за санацыі. Усе пішуць, што было цяжкое, а я напішу, чаму было цяжкое. Аб замежных фірмах, аб падрадчыках, як хадзілі на работу, у якіх вёсках начавалі. Сёння 300 метраў схадзіць у краму, дык маладыя пазычаюць веласіпед, каб не ісці, але ехаць. Мала засталося такіх людзей, што памятаюць даваенны час.

У нас, у Рыбаках, ёсць магістры, педагогі, інжынеры-магістры. Яны не пахвалілі „Ніву“ за тое, што не надрукавала майго артыкула аб даваенным жыцці, а Барскага артыкул аб усім і аб нічым надрукавала. Ці Барскі павінен пісаць аб усім на свеце? Многія ўжо спазналі, што акіян большы за Балтыйскае мора! Да тэорыі патрэбна практыка. Але не кожнаму давялося бачыць акіяны.

**Ф. Хлябіч**

**Ад рэд.** Просім прабачэння за ненадрукаваны вялікі фрагмент Вашага артыкула аб даваенным жыцці людзей у нашых вёсках. Вы пераканалі нас, што яго надрукаваць трэба. І гэта робім ніжэй.

## НА ЗАРОБКІ

Перад вайной з гаспадаркі цяжка было аплаціць нават падаткі. На іншыя патрэбы трэба было зарабляць па-за гаспадаркай. Неабходна было цяжкі грош зарабляць у лесе і на сплаве дрэва.

За санацыйнай Польшчы асноўная прамысловасць была ў руках замежных фірмаў. Белавежскую пушчу эксплуатавала англійская фірма. У той час рабочых хапала, хоць за работу плацілі слаба. У надлясніцтвах падрадчыкі бралі цэлыя кварталы на вырубку лесу ці на вывазку. Людзям плацілі мала. Тады рабочыя не былі забяспечаны, не было ў іх ні даезду, ні начлегаў. Ніхто нікога не падвозіў на работу. Коні калісьці мелі намнога больш працы, як цяпер, а карміць іх не вельмі было чым. Самому рабочаму трэба было ў мяшок браць ежу на тыдзень. А што то была за ежа? Бульба, хлеб, крупы, гарох і сала. Клунак вісеў за плячыма. Рукі маглі б быць свабодныя ў дарозе, але ж трэба было несці ў іх гаршчок і патэльню. А супольнік жа таксама нёс клунак, сякеру і пілу.

Пілы былі добрыя і тоненькія. Некаторыя піламі падпярэзваліся. У такой форме трэба было ісці 13 кіламетраў у Нараўку і яшчэ шэсць за Нараўку.

Начавалі ў пушчанскіх вёсках: Елянцы, Янове, Забалочыне, Свінароях, Скупаве, Грушках, Гушчэвіне, Альхоўцы, Пасеках, Баб'яй Гары, Масеве. Людзі гэтых вёсак прымалі бясплатна. Прыносілі салому і слалі на падлозе. Рана-раненька трэба было салому тую сабраць і падлогу замесці.

Гаспадыні і варылі бясплатна. Людзі пушчанскіх вёсак добразычлівыя і працавітыя. Былі заўсёды да нашых людзей добрымі.

З нашай вёскі некалькі чалавек працавала ў лесе за Гайнаўкай, у Чарлянцы. Працавалі зімою. Блізка не было ніякай вёскі. Пры больш як 15-градусным марозе начавалі ў лесе. Абстаўляліся кругом галінамі, у сярэдзіне клалі агонь, на цёплае вогнішча клалі потым яловае галлё і на ім спалі. А другі агонь распальвалі збоку. Трэба было часта паварочвацца, каб грэць бакі. Летам начавалі ў будзе.

На работу выходзілі ў нядзелю, бо шкадавалі страціць будзённы дзень. Хочучы больш зарабіць, працавалі даўжэй. І ашчаджалі ежу. Аднойчы, нарабіўшыся ў ахвоту, каля будкі варылі вячэру ды й ад стомы ўсе мы пазасыналі. Наранак вячэра была не зварана, але размоклая, і яе з'елі за снеданне.

На сплаве лесу можна было больш зарабіць, але было яшчэ цяжэй. На гэтую працу трэба было ісці зараз пасля лёду, каб зайсці ў Тыкацін, пакуль вада не спадзе. А зайсці з дрэвам у Тыкацін, дык трэба было чатыры тыдні. На глене рабілі будку з тычак і саломы. Будка павінна была быць нізкая, каб не зачапілася пад мастом ці за надрэчнае галлё. У такую будку ўлазілі на каленях. Шырынёю была такая, каб чатыры чалавекі маглі ў ёй легчы ў світках ці ў кажухах. Такія ўмовы спрыялі размнажэнню непрыемных насякомых.

Вясной вада яшчэ халодная. Рукі заўсёды мокрыя. І ўвесь сам арэль заброханы. А яшчэ калі хто спатыкнецца ў небяспечным месцы! Трэба было лезці ў ваду і калкамі спіхаць дрэва з перашкоды. Па рэчцы Нарве перашкодаў было многа: Сямёнаўскі мост, Бандароўскі мост, Грушкоўскае калена, Нарвянскі курган, Нарвянскі мост, Плёскаўскі мост, Страблянскі мост, Суражскі мост, Крушэўскі мост, Жоўткаўскі мост, ез у Златарыі, Бакінскі мост і шмат іншых. Рака мела крутыя павароты, плыткія месцы і глыбокія тоні. У кожным небяспечным месцы, калі не справіўся адзін з чатырох арэляў, то ўсіх іх чакала цяжкая праца праз цэлы дзень, а нават і даўжэй. Перад небяспечнымі месцамі арэлі вельмі хваляваліся. Адзін арэль сярод нас служыў некалі ў матросах у Балтыйскім флоце, дык нават і ён хваляваўся. Ён голасна даваў каманду: „Дзяржыце!“ Другі яму адказваў: „Дзяржу, хоць почкі рвуцца!“

Ежу варылі на глене. Рабілі так: клалі каменне, на каменне — дзярно, а на дзярно — агонь.

Са Страблі часам вярталіся пехатой. З Тыкаціна прыязджалі. Аўтобусы тады не хадзілі. Арэлі наймалі фурманку ў курэяў. Для арэляў было выгодна ехаць, бо кожны ад іх адсоўваўся, каб не набрацца вошай.

Такія за санацыі былі часы.

**Ф. Хлябіч**

## МАРНАТРАЎСТВА

На ўскраіне лесу, ля палявой дарогі, якая спалучае вёску Нурэц з Вулькай Нурэцкай (на паўднёвым усходзе Беласточчыны) хтосьці высыпаў некалькі дзесяткаў тон вапны — каштоўнага мінеральнага ўгнаення. Ляжыць яно пад адкрытым небам, нічым не забяспечанае ад дажджу. Хтосьці заплаціў за гэтае ўгнаенне, за перавоз яго і за працу людзей ды рашыў чамусьці пазбыцца гэтага дабра.

Я даволі добра ведаю тыя бакі. Зямля там не найлепшай якасці, яна патрабуе дбайнага догляду і добрага ўгнаення. Таму не магу зразумець, хто рашыў пазбыцца вартаснай вапны. Са скупых звестак, якія я атрымаў ад тутэйшых сялян (яны не хацелі аб гэтым гаварыць) вынікае, што след гэтага яўнага марнатраўства вядзе ў прадукцыйную спулдзельню ў Вульку Нурэцкую. Мяркую, што міліцыянеры з Нурца (гэта іх участак дзейнасці) болей дакладна і паслядоўна зоймуцца справай, а раённы пракурор зможа падлічыць вышыню затрат ад такой бестурботнай гаспадарлівасці.

**Тэкст і фота — В.Р.**



мі ў лесе. Там сустракаліся людзі з розных вёсак, найбольш маладыя. Можна было адысці за корчык і пашаптаць па сакрэту аб чым хочаш. Так наладжваліся першыя кантакты між людзьмі, якія дагэтуль сябе не ведалі. Так зараджаўся ўсенародны антыфашысцкі рух.

У Скрабляках, для прыкладу, дагаварыліся найперш, як і дзе перахоўваць трафейную зброю. Дзеля гэтага выкапалі ў лесе даволі прасторнае сховішча, штосьці ў выглядзе гаспадарскага склепа, узмоцненага сасновымі бярвеннямі зверху і па баках, каб зямля не абсыпалася і вада не падмывала, а ўваход у гэты арсенал закрылі адмысловай скрынкай, да якой прыбілі жывы, зялёны ядловец і абсыпалі яго зямлёю, каб не засох і надалей спакойна рос ды красаваўся. Сто разоў мог хадзіць каля гэтага месца і, не ведаючы таямніцы скраблякоўскага арсенала, ніхто не дадумаўся б, што скрываецца пад гэтым стройным ядлоўцам. Толькі яны ведалі, што хопіць гэты ядловец перакуліць на бок і ўваход у сховішча адкрыецца. Вядома, абы-каму не выяўлялі яны гэтай свае таямніцы. Толькі спачатку група Кандрусіка, а пазней і партызанскі атрад Кастуся Каліноўскага, пад камандаваннем Аляксея Карпюка, калі немцы знішчылі іх запасы зброі, звярнуліся да скраблякоўцаў з просьбай, каб дазволілі ім пакарыстацца іхнім арсеналам.

Але гэта таксама апісана А. Карпюком. І я вярнуся ў Грыбаўцы і Страшава, дзе шмат розных іншых Карпюкоў і Карповічаў. Адзін з гэтых Карпюкоў, Уладзімір, які жыў на хутары за Страшавам, рашыў ратавацца ад арышту па-свойму. У агародчыку за хатай выкапаў сабе тайнік, які спалучыў падземным праходам з хатнім склепам на бульбу. Калі б хтосьці непажаданы нават застукаў у дзверы, дык ён яшчэ паспеў бы ўскочыць у гэты склеп, перабегчы ў свой тайнік, а з яго выскачыць у агарод ды паімчацца ў лес.

Кандрусік ведаў, што гарадоцкая жандармерыя мае і яго на ўліку. Цераз сваіх сяброў пастараўся папярэдзіць, каб Уладзімір Карпюк асцерагаўся, а найлепш, каб уцякаў ужо ў лес. Ён, аднак, рашыў нейкі час яшчэ пакарыстацца сваім тайніком, які выдаваўся яму надзейным сховішчам. Здарылася, аднак, так што немцы яго напужалі і ён вымушаны быў таксама шукаць ратунку ў лесе. Проста цудам ён выратаваўся ад гітлераўскай кулі. Але было гэта крыху пазней, а не на пачатку лета 1942 года, калі Кандрусік, Нягерыш, Майсак, Тарасевіч і яшчэ некаторыя жыхары вёсак Навасёлкі, Пясчанікі і Дзернякова, узяўшы зброю ў рукі, адправіліся ў лес, які адвечнай зялёнай сцяною распасціраўся між Супраслю і Гарадком.

Пастаяннай стаянкі ў іх не было. Не было ў іх таксама і парадачнай зямлянкі. Гэтую, ля вёскі Папоўка, абсталявалі яны намнога пазней. Тым часам блукаліся па лесе між Скраблякамі, Радунінам (дзе, дарэчы, быў паліцэйскі ўчастак), Валіламі і Перацёсамі. Начавалі, елі і адпачывалі пад голым небам, пад стройнымі елкамі і разгалістымі дубамі. Аднолькава тады, калі свяціла сонца, і тады, калі ішоў летні лівень або імжэў халодны, пранізлівы асенні дождж. Раскласці агонь даводзілася толькі ноччу, бо ў дзень дым узбіваўся над соснамі і прыслужныя леснікі (а былі, на жаль, такія ў гэтых баках) неадкладна паведамлялі гітлераўцам аб „бандытах“, якія паявіліся на іх участку.

(Працяг на стар. 8)

### Этнаграфічнае акенца



Рэзь у дрэве ў вёсцы Цясное каля Супраслі. Фота М. Гайдука.

## АДНАЎЛЯЮЦЬ ДАРОГУ

Няроўнай стала шаша на адрэзку ад Чэхаў Арлянскіх да Войнаўкі. Зараз кладуць тут другі пласт асфальту. Пры нагодзе шашу крыху пашырылі.

Варта дадаць, што вясною бягучага года перабудавалі вулічнае асвятленне ў вёсцы Войнаўка. Цяпер тут вечарамі і ноччу свецяць шмат ярчэйшыя ад звычайных лямпачак — „яжэнёўкі".

(яц)

### Куток практычных ведаў

■ Вінныя плямы на шаўковай сукенцы змыць слабым мыльным растворам. Можна змачыць іх таксама слабым растворам нашатырнага спірту. Пляму на каляровай шарсцяной тканіне памачыць у сырым малацэ, пакуль пляма не знікне. Плямы ад белага віна змыць чыстай цёплай вадой.

### Таямніцы навокал нас

# ЗЁЛКА АД 99 ХВАРОБ

Сёння прапаную Шаноўным Чытачам пайсці за зёлкамі святаянніка дзіркаватага. Ён можа вельмі прыдацца ў нашай аптэчцы. Хоць гэтая расліна, адпаведна высушаная і захаваная не траціць сваіх лячэбных уласцівасцей на працягу 3 год, аднак не пашкодзіць аднавіць яе запас.

Сёння шпацыр будзе крыху даўжэйшы. Хто жыве непадалёку лесу, той няхай шукае святаянніка на пагорках, палянах сярод лесу, у светлых лісцевых і змешаных старадрэвінах, а таксама на некалькігадовых лясных пасадках. Каму ў лес далёка, няхай пойдзе на шпацыр у поле, найлепш малаходжанымі сцежкамі і межамі, на якіх святаяннік таксама любіць расці. Нецярплівых і лянівых перасцерагаю ад збірання раслін у равах і на абочынах дарог. Зёлкі, якія там растуць, атручаны і непрыгодны да спажывання і лячэння.

Пра месца, дзе расце святаяннік, паведамляе таксама яго лацінская назва Hypericum perforatum. Слова hypericum паходзіць ад hypo — „пад" і erica „верас", інакш кажучы: „расце ў верасах". Слова perforatum абазначае „прадзіраўлены". Гэта датычыць лісця расліны, якое пры святле сапраўды выглядае быццам яно прадзіраўлена (ад гэтага і яе польская назва — dziurawiec). А гэта таму, што ў іх знаходзяцца празрыстыя маленечкія эфірныя ёмістасці. Святаяннік (беларуская назва паходзіць ад таго, што расліна цвіце на свята Яна) лёгка пазнаць здалёк. Ён вышынёй да паўметра і складае палосы жоўтых кветак. Кожная расліна — гэта маленечкая мяцёлка, закончаная кветачкамі. Раздушаныя кветкі святаянніка пакідаюць чырвоныя плямы. Святаяннік збіраюць з паловы чэрвеня да паловы ліпеня і ў канцы жніўня. Збіраючыся па святаяннік, не забудзьце ўзяць нож. Гэтую расліну нельга вырываць з карэннем.

У народнай медыцыне зелле святаянніка выкарыстоўваецца пры розных недамаганнях: растройстве абмену рэчываў, працяглых хваробах страўніка, печані, нырак і кішок, у нервовым знясіленні, неўралгічных болях, бяссонніцы, галаўных болях, склерозе кравяносных сасудаў і пры павышанай палавой узбуджальнасці. Знешне зелле святаянніка прымянялі да лячэння ранаў, якія цяжка лячыліся, раздушаныя болькі і апёкі. Мабыць таму гаворыцца, што ён — лякарства ад 99 хвароб.

Святаяннікам лячыліся і бедныя і багатыя. У старых архівах Масквы па сённяшні дзень захоўваецца царскі ўказ з 1638 года, у якім даецца загад ваяводу І. Рамаданоўскаму кожны год дастаўляць на царскі двор пуд(!) молатага зелля святаянніку (па руску — зверобой продыравленный). Такой колькасцю можна было вылечыць палову тадышняй Масквы, не толькі царскі двор.

Зеллем святаянніка карыстаецца і сучасная медыцына. Святаяннік — адзін з найболей усебакова ўздзейнічаючых і часцей за ўсё прымяняльных сродкаў пры хваробах печані і страўнікавага тракта. Варта ведаць, што святаяннік дзейнічае супрацьсутаргава (напаранне з 15 грам адпавядае дозе 1,2 грама папаверыну) і адначасова процізапаленча і бактэрыястатычна. Украінскія вучоныя стварылі са святаянніку лякарства „Іманін", якое ўжываюць як мазь пры лячэнні ранаў і апёкаў.

У літаратуры рэкамендуецца рэцэпты, якія можна рэалізаваць хатнім спосабам:

1. **Наліўка:** 100 грам высушанага зелля святаянніка заліць паловай літра спірту і паставіць на тыдзень. Працадзіць і піць у дзень 2 разы па гарбатняй лыжачцы, разводзячы ў палове шклянкі вады або малака.

2. **Мазь:** змяшаць 1 лыжку наліўкі святаянніка з 2 сталовымі лыжкамі льнянога алею. Прыкладваць на раны, апёкі і абмарожанні.

3. **Напаранне:** 15-25 грам зелля святаянніка на 2 шклянкі вады, піць па паўшклянкі 2-3 разы ў дзень перад ядой.

Святаяннік — гэта таксама важны кампанент многіх лячэбных зёлкавых сумясей. Зелле святаянніка рэкамендуюць як зёлкавую гарбатку. Напітак са святаянніка пахучы, уздзейнічае прафілактычна і лечыць. Нарыхтоўваем гарбатку ў чайнічку, заліваючы 2–3 лыжкі пакрышанага зелля (з кветкамі) літрам кіпетню і трымаючы накрытым 30-40 мінут. Піць як гарбату з цукрам або мёдам. Апрача таго зелле святаянніка выкарыстоўваецца ў вытворчасці лікёраў, як прыправа да рыбных страваў і лякарства ў ветэрынарыі.

Аднак варта памятаць, што святаяннік належыць да раслін, якія павышаюць падатлівасць арганізма на ўздзеянне сонечных праменняў. Руская назва расліны — зверобой — узнікла якраз з таго, што жывёлы, якія былі на сонцы, асабліва светлай масці або з белымі плямамі на поўсці, і пры тым з'елі святаянніку, — атручваліся. Калісьці, каб пазбегчы атручання, белыя плямы на поўсці кароў замалёўвалі чорным. Выдатна памагала. Па гэтай прычыне той, хто прымае лякарства або п'е гарбатку са святаяннікам, не павінен знаходзіцца на сонцы, а ўжо ні ў якім выпадку нельга яму загараць.

д-р Б. Паскробка

(Праяг са стар. 7)

# РАТУНАК У ЛЕСЕ

Не, няма чаго зайздросціць гэтым сялянам, якія ва ўмовах жорсткай акупацыі паступова пераўтвараліся ў партызан, станавіліся народнымі мсціўцамі за крыўду і здзекі. У іх незайздросным лёсе больш было штодзённага пакутніцтва, чымсьці геройства ў час баявых вылазак на вайсковыя гарнізоны і камунікацыі ворага.

Я часта намагаўся ўявіць сабе, як на лютым марозе спалі яны на голым снезе?

— За пасцель служылі нам яловыя галінкі, — пяснялі мне былыя партызаны. — Насцелем, бывала, гэтага галля пад сябе, саб'ёмся ў цесную кучу, прыкрыемся зверху плашчамі і кажухамі ды так, каб і носа не відаць было і гэтакім чынам грэемся, надыхаўшы крыху ўласнага цяпла. Адзін чалавек стаяў на варце, другі рыхтаваўся яму на змену і сачыў адначасова за вогнішчам, каб не пагасла. Найгорш было раніцай, калі ногі і рукі так адубянеюць, што нельга іх распраставаць, а неабходна ўстаць і пагасіць агонь.

Не ўсе, вядома, маглі гэтак адпачываць. У зімовы час што гадзіну даводзілася мяняць вартавых, каб нечакана ніхто іх не ліквідаваў. Трэба было таксама падтрымоўваць сувязь з навакольнымі вёскамі. Сцяпан Кандрусік або Уладзімір Карпюк ці Нягерыш выходзілі на дамоўленыя сустрэчы з вясковымі сувязнымі. Яны знаходзіліся амаль у кожнай вёсцы. Свае паведамленні перадавалі або асабіста, або пакідалі ў пастаянных, загадзя ўстаноўленых тайніках, „на пошце", як гаварылася сярод партызан. Тыя ж сувязныя дастаўлялі ў лес не толькі інфармацыю, але таксама і харчы, і вопратку ды папаўненне запасаў амуніцыі. Без гэтай „пошты" яны хутка трапілі б у рукі гітлераўцаў.

Харчаванне было асноўнай праблемай. Іх група пастаянна разрасталася, сувязныя перадавалі ў лес і даўнейшых ваеннапалонных, асабліва пасля таго, калі акупацыйныя ўлады загадалі, каб усе рускія з'явіліся на прымусовую рэгістрацыю. Партызаны, вядома, маглі зброяй і сілай здабыць сабе яду. Гэты метад прымянялі яны ў крайніх выпадках. Перш за ўсё таму, што дзейнічалі ў сваіх родных мясцовасцях. Браць сілаю ў сваіх нічога яны не хацелі, каб не псаваць сабе аўтарытэту і не ўзнімаць варожых адносін да партызан сярод вясковага насельніцтва, якое і без гэтага цярпела здзекі ад акупантаў. Без падтрымкі сялян, без вачэй і вушэй шматлікіх сувязных, яны нічога не былі б вартымі. Прыклад гэтаму сям'я Ігнацюкоў з Грыбаўскіх хутароў. Сям'я шматлікая, бадай што, васьміасабовая і кожны член гэтай сям'і па-свойму прымаў дзейсны ўдзел у антыфашысцкай барацьбе. Шурка і Юлек яшчэ ў даваенны час прайшлі школу падпольнай дзейнасці ў радах камсамола. Іх адзінаццацігадовы брат разам са сваім сябрам, сынам Юрыя Лукашука, пасучы ў лесе кароў, сустрэлі ледзь жывога параненага савецкага салдата, які ўцёк з палонніцкай калоны, якую гналі шашою ў напрамку Беластока. Няшчасны чалавек прасіў піць. Хлопчыкі не толькі яго напаілі і накармілі, апарожніўшы свае пастушкоўскія торбачкі, якія нарыхтавалі ім маці. Яны гэтага салдата завалаклі ў апусцелую цагельню і там яго так доўга даглядалі, пакуль ён сам не ўстаў на ногі. Насілі яму есці і піць, рабілі перавязкі яго ран, а калі паяўляліся гітлераўцы, папярэджвалі аб небяспецы і дапамагалі яму схавацца ў лясным гушчары.

Салідарнасць з партызанамі праяўлялася ў розных формах. Аднойчы ў партызан папсавалася радыё. Трэба было яго неадкладна адрамантаваць. Але аб гэтым ужо наступным разам.

Віктар Рудчык

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Васьмікласніцы са Старога Корніна, удзельніцы конкурсу беларускай песні.*




Вось і апошні школьны званок. Бывай, школа!

Асабліва гэта адчуваюць васьмікласнікі. Для іх гэта апошні званок у іх роднай школе. Званок, які абвяшчае ім аб першым этапе да дарослясці, аб вылеце з роднага гнязда ў далёкі і амаль яшчэ нязнаны свет.

Так адчувалі сябе і васьмікласнікі са школы ў Старым Корніне, калі я напярэдадні заканчэння навучальнага года наведала іх школу.

Дзеці іншых класаў рыхтаваліся ехаць на экскурсію па Польшчы (Люблін-Казімеж-Пулавы-Майданэк). 10 дзяцей выбралася на „вчасы в месце" ў Саколку, каля 20 чалавек збірала рукзакі ў паход на тыдзень у ваколіцы Нараўкі... Адным словам, калі ўся школа жыла надыходам канікул, васьмікласнікі нясмела заглядалі ў будучыню: што прынясе ім наступны месяц, ці ўдасца паступіць у выбраную школу і што іх яшчэ там чакае.

Найлепшая вучаніца ў школе Люцына Сегень вырашыла вучыцца ў беларускім ліцэі ў Гайнаўцы. У яе пасведчанні аб заканчэнні васьмігодкі адны пяцёркі.

Іншыя яе сябры хочуць стаць чыгуначнікамі, эканамістамі, мэблярамі, механікамі, дрэваапрацоўшчыкамі, медсёстрамі і інш. Думаю, што гадоў за пяцьдзесяць, калі ўсе яны ўжо дарослыя, сустрэнуцца ў сваёй вёсцы, у сваёй школе, дык акажуцца тут разам спецыялісты розных прафесій вельмі патрэбных і важных.

Жадаю, каб споўніліся ўсе іх мары. Сардэчна жадаю ім гэтай будучай мілай і сяброўскай дарослай ужо сустрэчы ў поўным складзе сённяшняга восьмага класа.

**Яніна Чэрнякевіч**
**Фота аўтара**



*Люцына Сегень — найлепшая вучаніца школы ў Старым Корніне, васьмікласніца.*



*У прысутнасці „Зоркі" васьмікласнікі зрабілі сабе памятны здымак.*

**Вольга Іпатава**




Як прыеду ў вёску,
Кажа бабка ўраз:
Бегай каля хаты,
Ля свайго двара.

Толькі ж ты на рэчку
Не хадзі ані —
Там жыве страшыдла
Вадзянік.

Валасы ў яго даўгія,
Што пянька.
Рогі на ілбе крутыя,
Што ў быка.

Кожная рука —
Нібы вясло,
І луское усё цела
Зарасло.

Вадзянік раніцой
Устае,
Чэша віламі
Кудлы свае.

А замест люстэрка
Ёрш ля сцяны
Ставіць карпаў яму
Люстраных.
Толькі тата аднойчы пачуў,
Што на рэчку існі не хачу,
Бо баюся —
а раптам мяне
Вадзянік за нагу
Хапане.

Як у горад прыехалі зноў,
У басейн мяне тата павёў.
Цэлы год мы хадзілі ў басейн,
Я ныраць ужо стаў пакрысе.

Вось налета страшыць мяне
Пачынае бабуля: —
На дне...

Тата ж кажа:
— Хадзем на раку!
Будзе горача
Вадзяніку!

З аквалангам уніз як ырне,
Вельмі доўга там
Ходзіць па дне,
Я таксама за ім пад ваду
На пясчанае донца іду.
Ды не бачна
Страшыдла нідзе.
Толькі плешчацца
Сом у вадзе.
Ён абраслы,
Лянівы,
Стары.
Ледзь варочаецца
У віры.
І Сама мы нясём з глыбіні:
— Паглядзіце!
Вось ён. Вадзянік!



## ПАГЛЫБЛЯЙ СВАЕ ВЕДЫ

### З ГІСТОРЫІ ПАПЕРЫ

У старажытным кітайскім храме Гуа-Фанг на працягу многіх вякоў стаяла скульптура чалавека з разумным і шчырым тварам. Яго імя — Чай-Лун. Паломнікі, якія прыходзілі ў храм з розных куткоў Кітая, наладжвалі ў гонар Чай-Луна курэнні і аддавалі яму пашану. На Новы год і восенню прыносілі яму ахвяры.

Чым жа заслужыў Чай-Лун такое шанаванне? Кітайскія летапісцы сцвярджаюць, што менавіта яму чалавецтва абавязана з'яўленнем паперы са здробненых валокнаў шоўку, пянькі і ануч.

Кітайскія рамеснікі хутка пачалі выраблядь розныя гатункі паперы. Адна ішла на рознакаляровыя ліхтарыкі, другая — на сурвэткі, насоўкі, вееры.

Сакрэт вырабу паперы строга ахоўваўся. За разглашэнне спосабу выпрацоўкі кітайцу адсякалі галаву. Аднак, як гаворыць прыказка, шыла ў мяшку не схаваеш.

Першымі кітайскі сакрэт раскрылі арабы. Паводле падання, у сярэдзіне восьмага стагоддзя ў Туркестане, непадалёк ад граніцы з Кітаем, адбылася жорсткая бітва паміж кітайскім і арабскім войскамі. Кітайцы былі разбіты. Многія воіны трапілі ў палон. Сярод ваеннапалонных былі і майстры-папернікі. У абмен за вызваленне яны згадзіліся навучыць арабаў выраблядь паперу.

Але спатрэбілася яшчэ амаль трыста гадоў, перш чым паперу пачалі выраблядь у Еўропе — Італіі, Германіі, Галандыі. І ведаеце з чаго? З ануч!

На Русі першая папера з'явілася толькі ў канцы XVII стагоддзя. Да гэтага часу яе прывозілі з Галандыі. Для таго, каб папяровыя фабрыкі мелі сыравіну, цар выдаў загад, у якім гаварылася, што „усялякіх чыноў людзі, якія маюць у сябе зношаныя тонкія палотны і такія бы анучы, прыносілі і аб'яўлялі ў канцылярыі паліцмайстраўскіх спраў". За анучы плацілі грошы з царскай казны. Зборшчыкі раз'язджалі па гарадах і вёсках. За анучы плацілі іголкамі, ніткамі, пярсцёнкамі, завушніцамі. Сабраныя анучы адпраўлялі на папяровыя фабрыкі.

Яшчэ мацней адчуваўся недахоп ануч у Еўропе.

У 1730 годзе вядомы французскі фізік Рэамюр, той самы, які вынайшоў градуснік, прапанаваў выраблядь паперу з драўніны. Аднак у той час вучоныя не адобрылі гэтую ідэю. Мінула яшчэ больш ста гадоў, перш чым яна была ажыццёўлена.

Цяпер ва ўсім свеце вырабляецца больш 120 мільёнаў тон паперы ў год. Вучоныя лічаць, што к канцу стагоддзя выраб паперы ўзрасце ў 10-12 разоў.

На выраб адной тоны цэлюлозы дзе пяць кубаметраў драўніны, пераважна яловай. Каб забяспечыць насельніцтва зямнога шара ў 2000 годзе, трэба будзе высячы шмат лесу.

Для таго, каб гэта не здарылася, вучоныя даўно шукаюць спосабу вырабу паперы з іншай сыравіны. І, трэба сказаць, пошукі гэтыя даволі паспяховыя. У Японіі і Англіі ўжо больш як пятнаццаць гадоў выраблядь друкарскую паперу з сінтэтычных валокнаў і пластмасавых плёнак. У СССР распрацавана тэхналогія вырабу паперы з палімераў.

Але ж каб выраблядь хімічныя валокны і палімерныя плёнкі, патрэбны нафта, каменны вугаль, газы. Многія вучоныя лічаць, што гэтых рэчываў хопіць не больш як на дзвесце-трыста гадоў.

А чаму б не рабіць паперу з каменя — кварцу, базальту? Такая прапанова здаецца смешнай. Кавалак шэрага каменя і тонкі белы аркуш паперы! Што агульнага паміж імі? Але гэта толькі на першы погляд. З расплаўленага каменя ўжо зараз навучыліся атрымліваць найтанчэйшыя валокны. Пасля спецыяльнай апрацоўкі з іх можна вырабіць паперу, як і з цэлюлозы, на звычайнай папераробчай машыне. Пругкія падкладкі з такой паперы прымяняюцца для тэрмаізаляцыі ў электрапечках і інш.

Не за гарамі той час, калі папера з каменя пачне паступова выцясняць цэлюлозную. І, хто ведае, можа, калі-небудзь мы будзем купляць „каменныя" кнігі. Яны не будуць псавацца ад вільгаці, ім не страшныя зубы грызуноў, іх не кране плесня. Сапраўды вечныя кнігі!

А можа кнігі будуць друкаваць на шкляной паперы? Шкло — танны матэрыял. Яго выраблядь з пяску, соды і вапны.

Вось больш як чвэрць стагоддзя навучыліся выраблядь паперу з асобных павуцінак шкла. Пакуль што яна ідзе на выраб мэблі, на абліцоўку сцен, перагародак, на падсціл пад дахавае крыццё. Карыстаюцца такой паперай пры аздобе суднаў і самалётаў.

**Паводле Б. Розена**

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

— Марылька, прачытай напамяць верш.

Дзяўчынка ўстала і пачала чытаць. Нечакана яна замоўкла.

— Што здарылася, Марылька? — пытае настаўніца.

— Пеця закрыў маю кніжку.

* * *

— Пеця, — пытаецца настаўнік, — колькі будзе калі сорак памножыць на семнаццаць?

— Прыкра мне, — адказвае хлопчык, — але я таксама не ведаю.

* * *

— Наш сын гультай! — скардзіцца мама. — Цэлымі днямі ён валяецца на тапчане і глядзіць на воблакі. Не ўяўляю, што з яго вырасце!

— Можа, метэаролаг? — гаворыць тата.

## РЫЖЫК

Вавёрачку назвалі Рыжыкам. Была яна маленькая і дробненькая, нібы цацка, толькі што жывая. У рыжанькім футры. Улетку поўсць трошкі карацейшая, чым узімку, затое ўзімку — больш мяккая і пушыстая, шэрага, нават бурага колеру, толькі брушка заўсёды беленькае і вялікі прыгожы хвосцік.

Падабраў Рыжыка сусед-будаўнік, які працуе недзе за горадам, каля лесу, у кар'еры. Знайшоў пад дрэвам, калі той вываліўся з дупла.

Сусед аддаў звярка дзвюм дзяўчынкам, якія жылі побач, Тані і Марыне. Адна з іх хадзіла ў трэці, другая ў пяты клас.

І Таня, і Марына ахоўвалі малога, зрабілі яму ўтульнае гняздо, паілі, кармілі. Рыжык хутка рос і дужэў. Ён цягнуў у сваё гняздо ўсё, што траплялася. Калі ежы набіралася шмат, хаваў яе пад канапу, пад коўдру.

Еў Рыжык усё: арэхі і сёмкі, хлеб і бульбу, яблыкі, цукеркі, агуркі і капусту, піў малако і ваду, кісель і кампот. А колькі пагрыз усяго ў хаце — і пералічыць нельга.

Настаў сакавік, пачало прыграваць сонейка. Бацька Тані і Марыны надумаўся пацешыць Рыжыка: узяў доўгую сукаватую жэрдку, перакінуў праз адчыненую ў кухні фортку на таполю пад акном. Рыжык выбягаў па жэрдцы на дрэва, падскакваў, грыз галінкі, кару.

У хуткім часе Рыжык пачаў смялей спускацца па таполі ніжэй і ніжэй. Некаторыя дарослыя, а тым больш дзеці, спрабавалі злавіць звярка, але ён у рукі не даваўся. На дрэве Рыжык адчуваў сябе гаспадаром. Здаралася, бегаў і па зямлі, далекавата ад дому, ад таполі. І вось аднаго разу ён не вярнуўся. Доўга шукалі яго Таня з Марынай і іхнія бацькі, ды так і не знайшлі. А між тым яны хацелі падгадаваць вавёрачку да лета і выпусціць.

Мінула шмат часу, перш чым дачуліся, што ж адбылося з Рыжыкам пасля таго, як ён знік. Мабыць, ён заблудзіўся, а можа, хто напалохаў? Толькі здзічэў ён. Забраўся ў пустую шпакоўню і жыў там адзін. А ў лес ён так і не трапіў. Не трапіў, бо не ведаў, дзе ён, той лес.

**Л. Ванковіч**

## ПІШУЦЬ ШКОЛЬНІКІ

### ЯК Я ЗНАЙШЛА 60 МІНУТ

Мяне заўсёды здзіўлялі мае равеснікі, якія ўсё паспяваюць зрабіць. І маюць час на свае занняткі, захапленні. У мяне час праліваўся амаль дасло́ўна праз пальцы. Я ледзь паспявала зрабіць урокі. Але чаму так? Чаму ў мяне не хапае часу?

Я доўга думала і зразумела: я ўвесь час наводжу парадак. Дакладней кажучы, вымушана парадкаваць. Напрыклад, мне патрэбны купальны касцюм. Паўгадзіны пошукаў — і я знаходжу яго сярод зімовай адзежы. Пры гэтым заўважаю, што мая святочная суконка валяецца на крэсле побач з хатнім халацікам. Праз некалькі дзён пасля майго саліднага парадкавання на полках зноў невядома што. Крыўдна!

І я вырашыла, што ад сённяшняга дня кожная рэч павінна мець сваё пастаяннае месца. І я пастаралася запамятаць, дзе што ляжыць. Такім чынам я вярнула сабе больш гадзіны вольнага часу. І ведаеце, шукаць патрэбны час стала нават цікава. Можна, напрыклад, наперад купіць віншавальныя паштоўкі, каб не бегаць у кіёскі тады, калі яны спатрэбяцца. Або можна завесці асобную полку для гасцей, дзе будуць ляжаць рэчы, якія паказваем гасцям: альбом з рэпрадукцыямі, фатаграфіямі, слайды. Прыдумала я таксама „пільную" скрынку: кладу ў яе ўсё, што трэба яшчэ скончыць. Калі ў мяне ёсць вольная хвіліна, я магу звярнуцца да незакончанай работы.

Думаю, што мае парады спатрэбяцца і іншым дзецям. А вы падзяліцеся са мной сваімі думкамі, знаходкамі. Магчыма, разам мы яшчэ больш знойдзем вольнага часу.

**Марына, сямікласніца**

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А

16= | =10 | =4 | =6 | 7= | 5= | 3

На крылах ветрака бачыце раўнанні. Устаўце ў пустыя кружочкі патрэбныя лічбы.

„Ніва"
30.VI.1985 г.

Адрас рэдакцыі: „Зорка", 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Piątek 28 VI** — 9.40 Film dla II zmiany: „Miraż", cz. 2, radz. film sensac. 10.50 DT. 11.00 Domowe przedszkole. 16.25 Program dnia. DT. 16.30 Majsterklepka. 16.55 Dla dzieci: Piątek z Pankracym. 17.20 DT. 17.30 XXII KFPP Opole '85 — Debiuty. 19.00 Dobranoc: „Pająk chwat, wszystkich brat". 19.10 Nie tylko dla wędkarzy. 19.30 Dziennik. 20.00 Monitor Rządowy. 20.30 „Miraż", cz. 2 radz. filmu sensac. 21.40 DT. 22.10. XXIIKFPP Opole '85 — Premiery, cz. 1. 23.00 DT.

**Sobota 29 VI** — 8.25 Program dnia. 8.30 Tydzień na działce. 9.00 Dla młodych widzów: Sobótka oraz film z serii „Niebieskie lato", odc. „Jaskinia Zielonego Kota". 10.30 DT. 10.40 Historia dramatu polskiego: Stanisław Wyspiański — „Wyzwolenie". 13.00 Poradnik rolniczy. 13.25 Telewizyjny koncert życzeń. 14.00 Z polski rodem. 14.30 Zdrowie. 15.00 DT. 15.10 Telewizyjna lista przebojów. 15.40 Trybuna Sejmowa. 16.10 „Królowa Bona" (9)), serial hist. TP. 17.10 Studio Sport — Mięrzynarodowy Turniej Siatkówki Mężczyzn w Opolu. 18.00 Losowanie Dużego Lotka. 18.15 XXII KFPP Opole '85 — Promocje. 19.00 Dobranoc: „Bolek i Lolek". 19.10 Z kamerą wśród zwierząt. 19.30 Dziennik. 20.00 „Wyjście awaryjne" — polska komedia obycz. 21.25 Czas — mag. publ. 21.55 DT. 22.00 Pegaz. 22.40 Wiadomości sportowe. 22.50 XXII KFPP Opole '85 — Piosenka jest dobra na wszystko. 23.50 Kion nocne: „Niebezpieczne ptaszki" — nowozelandzki film krym. z serii „Rewir sierżanta Mortimera".

**Niedziela 30 VI** — 8.15 Program dnia. 8.20 Tydzień. 9.00 Kino Teleferii „Zaginął słoń" — radz. film fab. 10.10 Radar. 10.30 DT. 10.35 „Wielkie rzeki świata", odc. pt. „Tag" — film dokum. TV franc. 11.25 Siedem Anten. 12.25 Kraj za miastem. 12.50 Telewizyjny koncert życzeń. 13.35 Teatr młodego widza: John R. R. Tolkien — „Pogromca smoków" (3). 14.15 Wszystko albo nic (1) — teleturniej wiedzy o reformie gospd. 15.00 DT. 15.10 Pola Gojawiczyńska: „Dziewczęta z Nowolipek" (4) — „Amelka". 15.55 Wszystko albo nic (2). 17.05 XXII KFPP Opole '85 — Premiery, cz. 2. 18.00 Studio Sport — Międzynarodowy Turniej Siatkówki Mężczyzn w Opolu. 18.30 Antena. 19.00 Wieczorynka: „D'Artagnan i trzej muszkieterowie". 19.30 Dziennik. 20.00 „Diana" (2) — ang. serial film. 20.55 Klub międzynarodowy. 21.25 XXII KFPP Opole '85 — Mikrofon i ekran. 23.00 Sportowa niedziela. 23.30 DT.

**Poniedziałek 1 VII** — 17.25 Program dnia. DT. 17.30 Telewizyjny Magazyn Lato. 19.00 Dobranoc: „Chłopiec z łąki" 19.10 Echa stadionów. 19.30 Dziennik. 20.00 Publicystyka. 20.15 Teatr TV — Sąena Faktu: „Jałta 1945 — dzień ósmy, 11 lutego". 21.05 DT. 21.25 Żniwa '85. 21.40 Telewizyjny Informator Wydawniczy. 21.55 Telewizyjny Magazyn Lato. 22.25 Pegaz. 23.05 DT.

**Wtorek 2 VII** — 9.00 Teleferie Telewizji Najmłodszych — „Bezludna wyspa". 9.30 „Pszczółka Maja". 10.30 DT. 10.40 Film dla II zmiany: „Stowarzyszenie z Eleusis" (4). 17.25 Program dnia. DT. 17.30 Telewizyjny Magazyn Lato. 19.00 Dobranoc: „Rozbójnik Rumcajs". 19.10 Klinika zdrowego człowieka. 19.30 Dziennik. 20.00 Publicystyka. 20.30 „Stowarzyszenie z Eleusis" (4), film fab. TV franc. 21.35 DT. 21.55 Powrót na praojców ziemie. 22.45 Telewizyjny Magazyn Lato. 23.15 DT.

**Środa 3 VII** — 9.00 Krąg — mag. harcerzy. 9.30 „Znak orła", odc. 1 pt. „Edukacja" — serial TP. 10.30 DT. 10.40 Film dla II zmiany: „Łabędzie śpiew" — węg. film fab. 17.25 Program dnia. DT. 17.30 Telewizyjny Magazyn Lato. 18.50 Losowanie Małego Lotka. 19.00 Dobranoc: „Miś Uszatek". 19.10 Piłkarska kadra czeka. 19.30 Dziennik. 20.00 Publicystyka. 20.15 „Łabędzi śpiew" — węg. film fab. 21.45 DT. 22.05 Żniwa '85. 22.20 Telewizyjny Magazyn Lato. 22.50 Ludzie i zdarzenia. 23.40 DT.

**Czwartek 4 VII** — 9.00 Kino Teleranka: „Pszczółka Maja". 10.30 DT. 10.40 Film dla II zmiany: „Jemima Shore prowadzi śledztwo" — film seryjny TV ang. 17.25 Program dnia. DT. 17.30 Telewizyjny Magazyn Lato. 19.00 Dobranoc: „Udany lot krokodyla Mniama". 719.10 Studio festiwalowe — Moskwa '85. 19.30 Dziennik. 20.00 Lublicystyka. 20.15 „Jemima Shore prowadzi śledztwo" — film krym. TV ang. 21.05 Piosenka z dedykacją — program CZSP. 21.15 Zawsze po 21-ej. 21.55 DT. 22.20 Telewizyjny Magazyn Lato. 22.50 Studio Sport — CSIO Sopot '85. 23.30 DT.

## КІНО

**Bielsk Podl.** Sny i marzenia — pol. 1. Vabank II, czyli Riposta — pol. 2—7.

**Czeremcha** Stawiam na trzynastkę — czes. 3. Tajemnicze spotkanie — rum. 6—7.

**Czyże** Czuje się świetnie — pol. W biały dzień — pol. 3—7.

**Hajnówka** Dziecko Rosamery — USA 1—2. Piękna kurtyzana — chińs. 3—4. Zaginiony — USA 5—7.

**Michałowo** Vabank — pol. 2—4. Saturn 3 — ang. 5—7.

**Mielnik** Agonia — radz. 3—4. Walka o ogień — kanad. 6—7.

**Milejczyce** Wściekły — pol. Szajka — bułg. 3—7.

**Narewka** Sabina Volff — NRD. Filip z konopii — pol. 3—7.

**Nurzec** Dom pod czerwoną latarnią — węg. Chciałbym się zgubić — pol. 3—7.

**Orla** Autostopowicz — czes. Piorun kulisty — czes. 3—7.

**Rajsk** Stawiam na trzynastkę — czes. Strach — pol. 3—7.

## ШТО-ДЗЕ-КАЛІ?

### ПРА САКІ, КУРАШАВА, ТЫНЕВІЧЫ і ІНШ.

У часопісе „Нашы праблемы" (РСВ „Праса-Кніжка-Рух" ад 29 мая) надрукаваны цікавы рэпартаж Малгажаты Герыч з нашых беларускіх вёсак. Рэпартаж называецца „Nie na pokaz — nie dla pieniędzy".

На пачатку чытаем: „...niedaleko Bielska Podlaskiego leżą wsie różniące się od innych polskich wiosek rodzajem drewnianej zabudowy, starymi żurawiami i cerkiewkami, wsie, w których do dziś mówi się po białorusku. Osoby dobrze znające teren twierdzą, że rodzi się tu wyjątkowo dużo ludzi wrażliwych nie tylko na muzykę, ale na kulturę w ogóle i na sprawy społeczne. Bez wątpienia śpiewa się tu więcej niż w innych regionach Polski".

У далейшым аўтар расказвае пра вясковых дзеячоў культуры ў Саках (гміна Кляшчэлі), Курашаве (гміна Чыжы), Тыневічах (гміна Нарва). Успамінаецца коратка і пра іншыя вёскі: Скупава, Райск, Мора, Кузаву.

Ёсць два здымкі вядомых беларускіх калектываў: „Незабудкі" з Курашава і жаночы калектыў з Тыневічаў Вялікіх. З Курашава многа і сардэчна піша аўтар пра слаўную Ніну Грыгарук, якая расказвае рэпарцёру пра свой любімы калектыў „Незабудкі", які з адданем і з поспехам многа гадоў спявае песні „głównie białoruskie".

З Тыневіч расказвае пра Зофʼю і Івана Асташэўскіх, Ніну Леўчук, пра калектыў. Аўтар піша: „Miejscowy zespół wyśpiewuje wciąż nowe nagrody na różnych konkursach i przeglądach. Nie słyszałem całego zespołu, ale mogę sobie wyobrazić jak śpiewa, skoro duet małżeństwa Ostaszewskich śpiewa białoruskie piosenki tak, że zapiera dech w piersi".

(вл)



Прыемна пакупацца ў Бузе, але трэба быць асцярожным, бо гэтая рака вельмі здрадлівая і ўжо забрала не адно чалавечае жыццё.

### ТУРНІР

У гарадскім Доме культуры ў Бельску быў арганізаваны пяты ўжо турнір бельскіх прадпрыемстваў. Удзельнічалі „Эльва", „Ленполь", „Каро" і БППБ.

Змагаліся ў наступных турнірных дысцыплінах: мастацка-культурныя заняткі, фізічная спраўнасць і танец.

Найлепш гледачам спадабалася каманда з „Каро" — яны выступілі ў касцюмах, якія самі пашылі.

Найбольш ачкоў набрала „Эльва", потым БППБ, „Каро", „Ленполь".

Шкада, што так мала прадпрыемстваў прыступіла да гэтага мерапрыемства.

**Андрэй Гаўрылюк**

### МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас:

Bank Spółdzielczy w Hajnówce Nr Konta 905217-1922-132.

У замежнай валюце Narodowy Bank Polski I Oddział w Białymstoku nr rachunku walutowego 5018-24325-151-6787.

Спісак чарговых ахвяравальнікаў:

| | | |
|---|---|---|
| 212. | Пачатковая школа ў Саках | — 2856 зл. |
| 213. | Аляксандр Адамовіч (Шчэцін) | — 500 зл. |
| 214. | Міраслаў Несцярук (вучань Бельскага беларускага ліцэя) | — 200 зл. |
| 215. | Яраслаў Барташук (вучань Бельскага беларускага ліцэя) | — 200 зл. |
| 216. | Яўгіння Мартынюк (Бельск Падляшскі) | — 280 зл. |
| 217. | Уладзімір Саўчук (Беласток) | — 250 зл. |
| 218. | Георгій Раманчук (Альхоўка) | — 5000 зл. |
| 219. | Біктар Ярмалковіч (Біскупец) | — 1000 зл. |
| 220 | Працаўнікі Гміннай управы ў Нараўцы | — 3500 зл. |
| 221. | Гмінны эканамічна-адміністрацыйны школьны калектыў у Нараўцы | — 2500 зл. |

Дзякуем.

Паведамляем таксама, што цэнтры збірання экспанатаў для музея знаходзяцца ў наступных месцах:

у Пачатковай школе ў Рыбаках, гміна Міхалова.
у будынку былога ПЗГС у Гайнаўцы,
у клубе БГКТ у Бельску, вуліца Міцкевіча 50/54.
у клубе БГКТ у Гайнаўцы, вуліца Вызвалення 6.
у Гмінным камітэце ПАРП у Мілейчыцах,
у Саколцы, вуліца Варынскага 1,
у ГП БГКТ у Беластоку, вуліца Варшаўская 11.

Чакаем экспанатаў або інфармацыі аб месцы іх знаходжання.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ

Дзядзька Максім сушыць сена • Гайдук робіць непрыстойны ўчынак • Барскі заклікае караць іншых • На Прэйслі наживаюцца • „Белавежа" • Лёс Аксені-спявачкі • Секс у цягніку Беласток-Белавежа. • Ваенныя сцежкі пастушкі Настусі • З баршчэўніку не толькі боршч • „Гомо сапіенс" А. Карпюка • У „Зорцы" прыгожыя вершы і цікавыя апавяданні • Гумар

## — КАЛЯНДАР —

**570 гадоў назад**

6.7.1415 быў спалены Ян Гус — мысліцель і нацыянальны герой чэшскага народа.

**80 гадоў назад**

6.7.1905 нар. Пятро Глебка — беларускі паэт.

**35 гадоў назад**

6.7.1950 быў падпісан дагавор паміж Польшчай і ГДР аб вызначэнні граніцы на Одры і Нысе.


# Ніва

**ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА**

**Галоўны рэдактар Георгій Валкавыцкі**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

„Niwa"
ul. Wesołowskiego 1
15-950 Białystok skr. poczt. 149
tel. 232-41

Wydawca Białostockie Wydawnictwo Prasowe. 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Druk Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku. Cena prenumeraty kwart. 104 zł; półr. 208 zł; rocznej 416 zł.

**WARUNKI PRENUMERATY:**

1. dla osób prawnych — instytucji i zakładów pracy:
   — instytucje i zakłady pracy zlokalizowane w miastach wojewódzkich i pozostałych maistach, w których znajduje się siedziba Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" zamawiają prenumeratę w tych Oddziałach:
   — instytucje i zakłady pracy zlokalizowane w miejscowościach gdzie nie ma Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" i na terenach wiejskich opłacają prenumeratę w urzędach pocztowych i u doręczycieli;
2. dla osób fizycznych — indywidualnych prenumeratorów:
   — osoby fizyczne zamieszkałe na wsi i w miejscowościach gdzie nie ma Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" opłacają prenumeratę w urzędach pocztowych i u doręczycieli,
   — osoby fizyczne zamieszkałe w miastach — siedzibach oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" opłacają prenumeratę wyłącznie w urzędach pocztowych nadawczo-oddawczych właściwych dla miejsc zamieszkania prenumeratora. Wpłaty dokonują używając „blankietu wpłaty" na rachunek miejscowego Oddziału RSW „Prasa-Książka-Ruch".
3. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch" Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw ul. Towarowa 23, 00-953 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie Nr 1153-201045-139-11. Prenumerata ze zleceniem wysyłki za granicę pocztą zwykłą jest droższa od prenumeraty krajowej o 50 proc. dla zleceniodawców indywidualnych i o 100 proc. dla zlecających instytucji i zakładów pracy.

Termin przyjmowania prenumeraty na kraj i za granicę:

— do dnia 10 listopada na I kwartał, I półrocze roku następnego oraz cały rok następny,
— do dnia 1 każdego miesiąca poprzedzającego okres prenumeraty roku bieżącego.

Zam 1097/85 r. Nakład 4.000. G-3.

## РЫБАЛОЎ

Прыстаў Міхась да маці: зрабі вудачку — пайду рыбу лавіць. Заўсміхалася маці: няма ж побач ні рэчкі, ні сажалкі — хіба што лужына... Знайшла, аднак, палачку, прычапіла да яе нітку, кручок ад старой блузкі: ідзі, лаві, колькі хочаш... Праз паўгадзіны вяртаецца Міхась дамоў, а ў руках яго — два вялізныя жывыя карпы! Здзівілася маці, пачала дапытвацца: дзе злавіў? А Міхась маўчыць, нібы тая рыбіна. Тут якраз падышла суседка. Паглядзела на ўлоў, на Міхася і кажа маці:

— А ты спытай у Малашыхі з трэцяга паверха, здаецца яна рыбу купляла.

Узнялася маці наверх. Сапраўды, стаіць перад дзвярыма суседкі таз з жывой рыбай. Вярнулася яна і да Міхася:

— Ах ты, ніготнік! Навошта чужую рыбу вывудзіў? Гэта ж сорам які. Што пра нас цётка Ганна падумае? Аднясі зараз жа рыбу назад!

Праз якіх пяць мінут выйшла маці Міхася на падворак і бачыць: яе сын з рыдлёўкай ля ямы корпаецца. Падышла да яго, зазірнула ў яму, а на дне яе тыя ж карпы ляжаць.

— Ты што гэта яшчэ надумаў? Я ж табе казала аднесці рыбу на месца!

— Мамачка, пачакай! Я не хачу, каб цётка пра нас дрэнна думала. Няхай рыбіны падрастуць: я іх кожны дзень палівацъ буду! А як вырастуць, адразу вярну. Вось цётка Ганна абрадуецца!

Павел Саковіч




# НІЎКА



### У АЎТОБУСЕ

— Грамадзянін, падсуньцеся хоць крыху.

— Ды куды, калі я і так стаю на адной назе.

— Я гэта адчуваю: вы стаіце на маёй!..

### НЫРЭЦ

— Гэта праўда, што ты можаш нырнуць пад ваду?

— А ўжо ж!

— А як доўга можаш быць пад вадой?

— Ну, гэта ўжо залежыць ад таго, як хутка мяне з яе выцягнуць.

### НАШЫ ДЗЕЦІ

— Скажы, Еўка, твой брацік ужо ўмее хадзіць?

— Яшчэ не, але ногі ў яго ўжо ёсць!

### ЦЯЧЭННЕ ПАДВЯЛО

Валодаў ён такім уменнем:
Плыць ціха-ціха па цячэнню.
Не ведаў, што віры бываюць.
І зараз — бурбалкі пускае.

Язэп Кудзеля



Каб толькі не збіцца з маршруту!



Не шанцавала яму з жонкамі: першая яго выгнала, другая пайшла ад яго, а трэцяя ўзяла яго ў свае рукі.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Вось вам боты, якія вы заказвалі для вашай новай палярнай экспедыцыі, мсье. Спадзяюся, вам спадабаліся тыя, якія я зрабіў для вашай першай экспедыцыі?

— Так, вельмі. Гэта былі самыя смачныя боты, якія я калі-небудзь еў.

*

Адзін амерыканскі адмірал у час інспектавання манеўраў дэсантных часцей выпадкова сутыкнуўся з матросам, які нёс пад пахай украдзеную курыцу. Вызначыўшы адразу, у чым справа, адмірал закрычаў:

— Ты ведаеш, хто я такі?

— Камандуючы флотам, пан адмірал!

— Не. Выходзіць, я камандуючы такімі зладзеямі, як ты!

*

— Як табе не сорамна так дрэнна паводзіць сябе ў школе! — злуе маці на сына. — Табе трэба браць прыклад са свайго бацькі.

— Дык жа бацька сядзіць у турме! — пярэчыць сын.

— Так, але ён піша, што яго звольняць датэрмінова за добрыя паводзіны!..

З „Весніка Задрыпоніі"

### НЯЎДАЧНАЯ СПРОБА

Няўдачную спробу пераплыць Атлантычны акіян у сідзячай ванне зрабіў М. Бурачкевіч. Пры вынасе ванны з будаўнічай пляцоўкі — яго затрымаў сторож.

### РЭКІ СТАНУЦЬ ЧЫСТЫМІ

У г. Курортнава праводзіцца цікавы эксперымент. У мэтах барацьбы з забруджваннем мясцовых рэк скідванне прамысловых адходаў тут праводзіцца проста ў мора.

З чаго смяюцца суседзі.






### НЕ ЧАКАЎ ТАКОГА

На прызыўным пункце афіцэр пытаецца маладога задрыпанца:

— У якім родзе войск хочаце служыць?

— У марфлоце, — адказвае задрыпанец.

— Плаваць умееце?

— А што, у нас няма караблёў? — здзіўляецца задрыпанец.

# Курёзы

### АМАТАРЫ ЁГІ

На працягу апошняга дзесяцігоддзя значна вырасла колькасць аматараў ёгі. А тыя, хто палюбіў яе назаўсёды, з'яўляюцца яе настойлівымі прапагандыстамі і папулярызатарамі. Адным з такіх заўзятых прапагандыстаў ёгі стаў 40-гадовы мексіканец Альберта Сацела са сваёй 25-гадовай вучаніцай, артысткай Анай Берта. Альберта Сацела — выкладчык ёгі. У сваіх публічных выступленнях ён як можна больш пераканаўча расказвае аб тым, як заняткі гэтай гімнастыкай змалку дапамаглі яму са слабога хваравітага дзіцяці ператварыцца ў дужага, фізічна развітага, адважнага, упэўненага ў сваіх сілах мужчыну. Прычым, каб даказаць гэта на справе, ён вырашыў прадэманстраваць свае практыкаванні на вяршыне гары на вышыні пяці з паловай кіламетраў. Мясцовы друк абышла эфектная фатаграфія Альберта Сацела, які на вузкім скалістым кліне на фоне вулкана адчайна стаіць на галаве ў спартыўнай форме, а яго вучаніца Ана Берта выконвае ёгу на заснежаным схіле вулкана. Гэтая гімнастыка ў неверагодных умовах, як і трэба было чакаць, паслужыла дзейснай рэкламай ёгі. І хоць пакуль што не знайшлося новых добраахвотнікаў паўтарыць рэкорд Альберта Сацела, прыток жадаючых браць урокі ёгі ў яго значна павялічыўся.



Хто заўсёды сядзіць на мелі, той ніколі не ўтопіцца.